









*Вроцлаў-Чанстахова, май-чэрвень 1997г.*
У часе 46-га Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу.

№ 6-7 (32-33) 1997

*...Урэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе*
*(з аб'яўленьняў Маці Божай у Фаціме)*



# Ave Maria

ЧАСОПІС МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ




















*Мінская катэдра НМП, 19 мая 1997г. Сьвятарскія пасьвячэньні.*

1. Кансэкрацыйная малітва.
2. Уручэньне келіха і патэны.
3. У часе Літаніі да Усіх Сьвятых.
4. Ускладаньне рук.
5. Кардынал Казімір Сьвёнтэк, нунцый абп. Дамінік Грушоўскі і новапрэзьбітары Сяргей Бараўнёў, Юры Барок і Францішак Рудзь у часе складаньня Найсьвяцейшай Ахвяры.
6. У часе ўрачыстасьці.





З 25 мая да 1 чэрвеня ў польскім горадзе Вроцлаве праходзіў 46-ты Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс. Яго тэма – Эўхарыстыя і свабода. На Эўхарыстычны Кангрэс зьехалася больш за 10 000 каталікаў з некалькіх дзесяткаў краінаў розных кантынентаў, удзельнічалі ў ім дэлегацыі з 84-х епіскапатаў – ад Аўстраліі да Зімбабвэ. У гэтым Кангрэсе актыўны ўдзел прымаў Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Сьвёнтэк, які выступіў з рэфератам на тэму "Свабода дзяцей Божых". 27 мая ў часе Сьвятой Імшы ён (разам з 12-цю арцыбіскупамі і біскупамі з розных краінаў сьвету) удзяліў сакрамэнт бежмаваньня пяці тысячам маладых людзей.




ВРОЦЛАЎ
25.05 - 01.06

Надзвычайнаю падзеяй была Statio Orbis (Стацыя Сьвету) – Сьвятая Імша на заканчэньне 46-га Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу, якую разам з дэлегатамі 84-х епіскапатаў сьвету вёў Сьвяты Айцец Ян Павел II. Дарэчы, паводле падлікаў арганізацыйнага камітэту, у Вроцлаў прыехала каля мільёна пілігрымаў.

Матэрыялам 46-га Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу прысьвечаны два выпускі інфармацыйнага бюлетэня "Каталіцкія навіны" (іх нумары можна замовіць у парафіях). "Ave Maria" прапануе фрагмент з гаміліі Яна Паўла II на заканчэньне Кангрэсу (1 чэрвеня 1997г., Вроцлаў).

# Сапраўдная свабода патрабуе гармоніі

(...) Тэмаю Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу ў Вроцлаве зьяўляецца свабода. Галоўным чынам тут, у гэтай частцы Еўропы, якая праз доўгія гады цярпела пакутныя выпрабаваньні зьняволеньня нацысцкага і камуністычнага таталітарызму, свабода мае асаблівы смак. Тут ужо нават само слова "свабода" прымушае мацней біцца сэрцы. Напэўна таму, што ў мінулыя дзесяцігоддзі за яе трэба было плаціць вельмі высокую плату. Глыбокія раны, якія пасьля таго часу засталіся ў людскіх душах. Яшчэ міне шмат гадоў, пакуль яны зарубцуюцца. Кангрэс заахвочвае нас, каб мы паглядзелі на свабоду чалавека ў перспектыве Эўхарыстыі. (...) Гаворка ідзе аб "гармоніі свабоды". Так, сапраўдная свабода патрабуе гармоніі. Але якая гармонія маецца на ўвазе? Гаворка ідзе перадусім пра гармонію маральную, гармонію ў сферы каштоўнасьцяў, гармонію праўды і дабра. У сітуацыі пусткі ў сферы каштоўнасьці, калі ў маральнай сферы пануюць хаос і блытаніна, свабода памірае, чалавек з вольнага становіцца нявольнікам – нявольнікам інстынктаў, пачуцьцяў, псеўдакаштоўнасьцяў. Бясспрэчна, што гармонія свабоды ствараецца ў працы. Сапраўдная свабода заўсёды дарагая! Кожны з нас павінен пастаянна пачынаць гэту працу наноў. І тут узьнікае наступнае пытаньне: ці можа чалавек гэтую гармонію свабоды стварыць сам, без Хрыста альбо нават насуперак Хрысту? Пытаньне выключна драматычнае, але якое ж яно актуальнае ў грамадскім кантэксьце, перанасычаным канцэпцыямі дэмакратыі, інспіраванай ліберальнай ідэалогіяй! Бо сёньня намагаюцца ўнушыць чалавеку і цэлым грамадствам, што Бог – гэта перашкода на дарозе да поўнай свабоды, што Касьцёл – вораг свабоды, што ён не разумее яе, баіцца яе. Тут адбываецца нейкая нечуваная блытаніна паняцьцяў. Бо Касьцёл не перастае быць у сьвеце вешчуном Евангельля свабоды. Гэта яго місія. "Для свабоды вызваліў нас Хрыстус!" Таму хрысьціянін не баіцца свабоды, ад свабоды не ўцякае! Ён прымае яе творча і адказна, як заданьне свайго жыцьця. Бо свабода не толькі дадзена нам Богам, але таксама зададзена! Яна зьяўляецца нашым пакліканьнем. А тое, што Касьцёл – вораг свабоды, – гэта хіба асаблівы нонсэнс тут, у гэтай

краіне і на гэтай зямлі, сярод гэтага народу, дзе Касьцёл столькі разоў даказаў, які вялікі ён абаронца свабоды! (...) Бо Касьцёл верыць, што для свабоды вызваліў нас Хрыстус! (...)

Сапраўдная свабода вымяраецца ўзроўнем гатоўнасьці да службы і дару сябе. Толькі так зразуметая свабода ёсьць сапраўды творчай, будуе нашае грамадства. Будуе і яднае, а не дзеліць! Як жа патрэбна сьвету гэта яднаючая свабода, патрэбна Еўропе, патрэбна Польшчы!

*З гамілії Яна Паўла II на заканчэньне Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу.*

### Малітва Кангрэсу

***Усемагутны, Вечны Божа, Які вызваліў нас з няволі граху,***
***збаўляючы чалавека праз ахвярную любоў Твайго Сына,***
***дай нам ласку так спраўляваць,***
***адараваць Эўхарыстыю і жыць Найсьвяцейшай Эўхарыстыяй,***
***каб мы, напоўненыя Духам Сьвятым,***
***годна выкарыстоўвалі атрыманую свабоду.***
***Няхай Праўда, Дабро і Любоў Твая***
***дапамогуць нам у спакоі набліжаць Божае Валадарства на зямлі:***
***паміж народамі, у нашых сем'ях, на працы, сярод хворых,***
***недаверлівых, сярод тых, хто не ведае Цябе,***
***Які ёсьць праўдзівою Свабодаю.***
***Праз нашага Пана Езуса Хрыста,***
***Які ў Духу Сьвятым няспынна яднае нас з Табою***
***на векі вечныя. Амэн.***


46-ы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс. Дэлегацыя з Беларусі.





ДА ЮБІЛЕЮ 2000 ГОДА НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА




**Разьдзел II**

# ПАЎТОРНАЕ АДКРЫЦЬЦЁ КАТЭХЕЗЫ ЯК НАВУЧАНЬНЯ ПРА АСОБУ ЕЗУСА ХРЫСТА І ПРА ЯГО ТАЯМНІЦУ ЗБАЎЛЕНЬНЯ

**(ТМА nr.42)**

## 1. Катэхеза Езуса – першага і дасканалага Евангелізатара

Езус быў вялікім Евангелізатарам. Ён абвяшчаў Добрую Навіну аб прыходзе ў сваёй асобе Валадарства Божага з энтузіязмам, перакананьнем і аўтарытэтам неперавзыдзенага Настаўніка: "Езус абыходзіў усе гарады і вёскі. Навучаў у тамтэйшых сінагогах, абвяшчаў Евангельле Валадарства і лячыў усе хваробы і ўсе слабасьці" (Мц 9, 35; 4, 23; Мк 6, 34).

Евангеліст сьвяты Лука прадстаўляе нам адзін дзень апостальства Езуса ў Кафарнаум у Галілеі (Лк 4, 32-44). Гэта вялікая колькасьць навучаньняў, цудаў, падарожжаў, наведзінаў. Пасьля заканчэньня навучаньня Езус аздараўляе ў сінагозе чалавека, апанаванага нячыстым духам. Прыйшоўшы ў дом Сымона (сьв.Пятра. – рэд.), аздараўляе яго цешчу, якая ляжала ў ложку ў гарачцы. На наступны дзень, на золку, у той час, калі Ён быў у аддаленым месцы, Яго адшукаў вялікі натоўп людзей, які хацеў затрымаць Езуса. Але Езус адышоў з Кафарнаум, накіроўваючыся ў іншыя гарады, "і абвяшчаў Слова ў сінагогах Юдэі" (Лк 4, 44).

Прынамсі двойчы евангеліст падкрэсьлівае зьдзіўленьне людзей з моцы і сілы, якія былі ў словах і ўчынках Езуса. "Зьдзіўляліся з Яго навучаньня, бо слова Яго было поўнае моцы" (Лк 4, 32. 36). Евангелізацыя, практыкаваная Езусам, якую мы бачым ва ўсёй сваёй паўнаце, носіць характар глабальнага сьведчаньня. Езус, па сутнасьці, навучаў словам, паслугуючыся рознымі літаратурнымі відамі, да якіх належаць кароткія казаньні, прыпавесьці, сентэнцыі, аналогіі і спасылкі. Вось некаторыя, заўсёды жывыя, несьмяротныя старонкі гэтага навучаньня: Нагорная пропаведзь – праграмная для разуменьня хрысьціянства (Мц 5-7), якая пачынаецца благаслаўленьнямі, што глыбока ўзрушаюць (Мц 5, 3-12); прыпавесьць аб міласэрным самарытаніне (Лк 10, 30-37) і прыпавесьць пра блуднага сына (Лк 15, 11-32); казаньне пра апошні суд (Мц 25, 31-46); вялікая навука, дадзеная ў часе апошняй вячэры з вучнямі (Ян 13-17).

Такія ўчынкі Езуса былі вельмі моцнаю прыладаю перадачы Яго навукі. Ён евангелізаваў таксама з дапамогаю некаторых сваіх нетрадыцыйных падыходаў, якія разыходзіліся з рэлігійнаю і грамадскаю культураю тых часоў, сваёй пазіцыяй у адносінах да ўбогіх, адрынутых, хворых, церпячых, ворагаў, чужых, жанчынаў, дзяцей, закону і сьвятыні.

Акрамя таго, сваю навуку Ён перадаваў пры пасрэдніцтве шматлікіх і самых розных цудаў, якія сталі знакамі Яго Божай моцы і праўдзівай прысутнасьці Бога ў гісторыі. Цуды выклікалі зьдзіўленьне і добра ўспрымаліся, але яны выклікалі таксама зайздрасьць і нянавісьць. Але і для ворагаў, і для вучняў яны былі аказіяй для разуменьня Езуса і для пераходу ад прызнаньця Яго ўлады як прарока (exousia) да пастаноўкі пытаньняў, што датычылі Яго Божай рэальнасьці (ousia), ад Яго надзвычайнай улады да Яго надзвычайнай існасьці.

Езус прамаўляў таксама жэстамі, маўчаньнем і позіркамі. Яго перамяшчэньне ў прасторы сталася таксама збавенным пераказам. Яго падарожжа ў Ерузалем мела сваю вызначаную мэту аб'яўленьня і спаўненьня місіі адкупленьня: "Вось мы ўваходзім у Ерузалем, і Сын Чалавечы выданы будзе архірэям і кніжнікам, і асудзяць Яго на сьмерць; і выдадуць Яго паганам на зьдзек, бічаваньне і ўкрыжаваньне; і на трэці дзень уваскрэсьне" (Мц 20, 18-19)...

(...) Езус на працягу сваёй публічнай дзейнасьці ўвёў вучняў у поўнае выхаваньне да жыцьця ў веры так, што яно пранікла ўсё іх жыцьцё. Сваёю палымянаю навукаю, якая ў Вялікдзень дасягнула найвышэйшага пункту канцэнтрацыі і завершанасьці, абвяшчаў і абгрунтоўваў два фундаментальныя элементы хрысьціянскай веры:

1. Збаўленьне дасягаецца не столькі ў выніку прымяненьня закону, колькі ў выніку веры ў Яго асобу...

2. Хрысьціянскае збаўленьне дасягае свае вяршыні тады, калі становіцца жыцьцёвым сьведчаньнем еднасьці з Богам Айцом, Сынам і Духам Сьвятым (супольнасьць Сьвятой Тройцы).

Значыць, навучаньне Езуса мела выразны Хрыстацэнтрычна-трынітарны характар. Езус паказаў, што хрысьціянскае збаўленьне – гэта канкрэтнае жыцьцё, угрунтаванае на асабістай лучнасьці з Богам. Сьвяты Ян Евангеліст найбольш поўна прадстаўляе гэты катэхетычны шлях дасканаленьня, які выходзіць з веры ў Хрыста, а заканчваецца на жыцьці ў Айцу, Сыну і Духу Сьвятым: "Хто любіць мяне, той спаўняе слова маё (будзе захоўваць маю навуку), і Айцец Мой палюбіць яго, і Мы прыйдзем да яго і будзем у яго прабываць" (пар.Ян 14, 23).

Працяг публікацыі ў наступных нумарах.

**Падрыхтавала К.Л.**

## ЯН ПАВЕЛ II

# з кнігі “ДАР І ТАЯМНІЦА”

***IV***
***Сьвятар***

*Маё сьвятарскае пасьвячэньне* было ў той дзень, калі звычайна гэты сакрамэнт не ўдзяляецца, бо 1 лістапада адзначаецца ўрачыстасьць Усіх Сьвятых і ўся літургія Касьцёла скіравана на перажываньне таямніцы Супольнасьці Сьвятых і падрыхтоўкі да Дня Задушнага. Аднак Мітрапаліт выбраў гэты дзень таму, што я ў хуткім часе павінен быў выехаць у Рым на далейшую вучобу. Я прымаў пасьвячэньне адзін у прыватнай капліцы Кракаўскіх Біскупаў. Мае калегі павінны былі атрымаць пасьвячэньне толькі ў наступным годзе ў Вербную нядзелю. (...)

Такім чынам, у гэтай капліцы ў часе сьпеву *Veni, Creator Spiritus* і Літаніі да Усіх Сьвятых, лежачы крыжам, я чакаў моманту ўскладаньня рук. Гэта асабліва хвалюючая хвіліна. Пасьля я неаднаразова справаваў гэты абрад як біскуп, а таксама як Папа. Ёсьць штосьці ў гэтай позе прымаючых пасьвячэньне, што да глыбіні ўзрушае: сімвал глыбокага прыніжэньня перад веліччу самога Бога і разам з тым цалкавітай адкрытасьці, каб Дух Сьвяты мог сысьці, бо гэта ж Ён Сам зьдзяйсьняе кансэкрацыю. *Veni, Creator Spiritus, mentes tuorum visita, imple superna gratia quae Tu creasti pectora.* Так, як у Сьвятой Імшы Ён зьдзяйсьняе перамяненьне хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста, так і ў Сакрамэнце сьвятарства Ён зьдзяйсьняе сьвятарскую альбо біскупскую кансэкрацыю. Біскуп, які ўдзяляе пасьвячэньне, зьяўляецца дарыцелем Божай таямніцы. Ускладаньне біскупскіх рук – гэта працяг жэсту, які ўжываўся ў першапачатковым Касьцёле на знак дару Духа Сьвятога, Які ўдзяляецца для пэўнай місіі (пар.Дз 6, 6; 8, 17; 13, 3). Гэты жэст ускладаньня рук ужыў сьвяты Павел у адносінах да свайго вучня Тыматэя (пар.2 Тым 1, 6; 1 Тым 4, 14), і гэты жэст застаўся ў Касьцёле (пар. 1 Тым 5, 22) як дзейсны знак актыўнай прысутнасьці Духа Сьвятога ў Сакрамэнце пасьвячэньня. (...)

Той, хто рыхтуецца атрымаць пасьвячэньне, падае на твар, усім целам, чалом датыкаецца падлогі сьвятыні, і ў гэтай яго позе – праява якойсьці цалкавітай гатоўнасьці да службы, якая будзе яму даверана. Гэта цырымонія пакінула глыбокі сьлед у маім сьвятарскім жыцьці. Калісьці праз гады, у Базыліцы Сьвятога Пятра на пачатку Сабору, успамінаючы гэты момант сьвятарскага пасьвячэньня, я напісаў паэтычны твор, фрагмент з якога варта тут працытаваць:

Гэта ты, Пётр. Хочаш быць тут Падлогаю, каб па табе праходзілі...

Каб ішлі туды, куды ты іх вядзеш...

Ты хочаш быць тым, хто служыць нагам – як скала служыць капыцікам авечак:

Скала – гэта таксама падлога гіганцкай сьвятыні.

А паша – гэта Крыж.

*(Kościół: Pasterze i źródła. Bazylika Św.Piotra, jesienią 1962: 11 X-8 XII, Posadzka)*

Пішучы гэтыя словы, я думаў таксама пра Пятра, як і пра ўсю рэальнасьць сьвятарства паслугі, стараючыся падкрэсьліць глыбіню значэньня гэтага літургічнага моманту. У гэтай позе ляжаньня крыжам перад атрыманьнем пасьвячэньня выяўляецца найглыбейшы сэнс сьвятарскай духовасьці: так, як Пётр, прыняць ва ўласным жыцьці Крыж Хрыста і стаць “падлогаю” для братоў.

***VIII***
***Што значыць быць сьвятаром?***

(...) Што значыць быць сьвятаром? Паводле сьвятога Паўла, сьвятар – гэта перад усім *дарыцель Божых таямніцаў*: “Значыць, няхай лічаць нас людзі слугамі Хрыста і дарыцелямі Божых таямніцаў! А ад дарыцеляў тут ужо патрабуецца, каб кожны з іх быў верны” (1 Кар 4, 1-2). Гэтага слова “дарыцель” нельга нічым іншым замяніць. Яно глыбока ўкаранёна ў Евангельлі. У гэтым кантэксьце варта прывесьці прыпавесьць пра вернага і нявернага дарыцеля (пар. Лк 12, 41-48). Дарыцель – гэта не ўладальнік. Ён той, каму ўладальнік давярае сваё дабро, каб ім распараджаўся справядліва і адказна. Менавіта так сьвятар атрымлівае ад Хрыста каштоўнасьці збаўленьня, каб адпаведным чынам разьдзяляў іх паміж людзьмі, да якіх ён пасланы. Гаворка тут ідзе пра каштоўнасьці веры. І таму сьвятар – гэта таксама чалавек слова Божага, чалавек сакрамэнту, чалавек “таямніцы веры”. Праз веру мы атрымліваем доступ да нябачных каштоўнасьцяў, якія зьяўляюцца спадчынаю Адкупленьня сьвету Сынам Божым. Нікога нельга лічыць “уладальнікам” гэтых каштоўнасьцяў. Яны прызначаны для ўсіх нас. Аднак, па волі Хрыстовага ўстанаўленьня, сьвятар павінен гэтыя каштоўнасьці ўдзяляць іншым.

*Admirabile commercium!*

Сьвятарскае пакліканьне – гэта таямніца. Яно зьяўляецца *таямніцаю “своеасаблівага абмену” – admirabile commercium* паміж Богам і чалавекам. Чалавек аддае Хрысту сваё чалавецтва, каб Ён мог ім паслугавацца як прыладаю збаўленьня. Хрыстус жа, прымаючы гэты дар, учыняе таго чалавека як бы сваім *alter ego*. Калі не спасьцігнуць таямніцы гэтага “абмену”, нельга зразумець, як гэта адбываецца, што малады чалавек, чуючы словы: “Ідзі за Мною!”, адракаецца ад усяго дзеля Хрыста, перакананы, што на гэтым шляху яго чалавечая асоба цалкам сябе рэалізуе. Бо праз што ж чалавек рэалізуе сябе больш поўна, як не праз тое, што можа штодзённа складаць *in persona Christi* адкупленчую Ахвяру, тую самую, якую Хрыстус склаў на Крыжы? У гэтай Ахвяры, з аднаго боку, павінна прысутнічаць самым глыбокім чынам трынітарная таямніца, а з другога боку, у ёй прысутнічае пэўным чынам “паяднаны” ўвесь створаны сусьвет (пар. Эф 1, 10). Таксама, паводле трапнага выразу Тайльхарда дэ Хардзіна, для ахвяраваньня на “алтары ўсяе зямлі” працы і цярпеньня сьвету спаўняецца Эўхарыстыя. Гэтым тлумачыцца і тое, што падзяка пасьля Сьвятой Імшы мае гэты Кантык трох хлапцоў з Старога Запавету: *Benedicite, omnia opera Domini, Domino...* Бо ў Эўхарыстыі ўсе стварэньні бачныя і нябачныя, а асабліва чалавек, благаслаўляць Бога як Стварыцеля і Айца. Благаслаўляць Яго словамі і чынам Хрыста, Сына Божага.

***Пераклад Крыстыны ЛЯЛЬКО***

### МАЛІТВА
### *аб апостальскіх работніках*
*(сьвятога Вінцэнта Палотыя)*

Божа, Ойча Прадвечны! Боскі Сын Твой, Якога Ты паслаў дзеля збаўленьня роду людскога, сказаў: многа ёсьць душаў, якія трэба скіраваць на дарогу, што вядзе да неба, а работнікаў мала. Таму наказаў Ён прасіць Цябе, Пана жніва на Тваёй містычнай ральлі, каб Ты паслаў нам евангелічных работнікаў, напоўненых духам Тваёй Божай любові. Таму май ласку, праз бясконцую міласэрнасьць Тваю, праз бясконцыя заслугі Езуса Хрыста і пасрэдніцтва Найсьвяцейшай Марыі Панны, Анёлаў і Сьвятых, паслаць іх.

Выслухай нас, таму што, ідучы за наказам Езуса Хрыста, зьвяртаемся да Цябе цяпер і заўсёды, і просім, каб як найхутчэй сталася адна Аўчарня і адзін Пастыр.

Пане Езу Хрыстэ, Ты дзеля адкупленьня сьвету быў паслушны аж да сьмерці крыжовай і Ты сказаў Сваім Апосталам і Вучням: многа ёсьць душаў, якія трэба збавіць, але мала ёсьць работнікаў, прасіце майго Айца нябеснага, каб паслаў работнікаў. Удзялі нам гэтую ласку , каб мы маглі маліцца ў лучнасьці з такою інтэнцыяй, з якою Ты маліўся на зямлі да Свайго Айца нябеснага аб збаўленьні душаў, і каб мы былі выслуханыя праз міласэрнасьць Божую і праз заслугі Твае, а таксама праз пасрэдніцтва Тваёй Найсьвяцейшай Маці Марыі, Анёлаў і Сьвятых. Амэн.

# “Будзьце сьвятымі сьвятарамі...”

*“Марыя, Маці Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Сьвятара, умацоўвай Сваёю нястомнаю апекаю нашыя крокі на дарозе сьвятарскай паслугі, асабліва, калі дарога становіцца цяжкаю, а стома больш адчувальнаю. Панна Верная, выпрасі для нас гэтую ласку ў Свайго Сына, каб заўсёды хапала нам адвагі даваць сьведчаньне аб Ім ў розных сферах нашага апостальства і супрацоўніцтва з Ім, каб сьвет меў жыцьцё і меў яго дастаткова” (пар.Ян10,10).*

**Ян Павел II, *Ліст* да сьвятароў на Вялікі Чацьвер 1997г.**

Ужо стала добрай традыцыяй, што самыя значныя падзеі ў жыцьці Касьцёла на Беларусі праходзяць у Мінскай катэдры Найсьвяцейшай Панны Марыі. Вось і 19 мая тут было асабліва ўрачыста, радасна і шчымліва: у гэты дзень адбываліся сьвятарскія пасьвячэньні. Сакрамэнт сьвятарства з рук Яго Эмінэнцыі кардынала Казіміра Сьвёнтка прынялі дыяканы Сяргей Бараўнёў, Юры Барок і Францішак Рудзь (*фотарэпартаж гл. на вокладцы, с.2*).

На ўрачыстасьці прысутнічалі нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, прэфект Гродзенскай духоўнай семінарыі ксёндз Раман Катлімоўскі, шматлікія сьвятары Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, клерыкі.

“Будзьце сьвятымі сьвятарамі, бо менавіта такія сьвятары патрэбны людзям, – заклікаў у сваім слове кардынал Казімір Сьвёнтэк. – Служыце верна Богу і людзям, майце перад вачыма прыклад Добрага Пастыра, які не прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць...”

Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Сьвёнтэк менаваў новапрэзьбітараў вікарыямі ў наступныя парафіі:

у касьцёл сьвятых Сымона і Алены (г.Мінск) **Сяргея Бараўнёва**,

у касьцёл сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла (г.Бабруйск) **Юрыя Барка** ,

у катэдральны касьцёл Найсьвяцейшай Панны Марыі (г.Магілёў) **Францішка Рудзя**.



*8 чэрвеня ў Мінскай катэдры НМП адбылася ўрачыстая Сьвятая Імша з удзелам арцыбіскупа Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынала Казіміра Сьвёнтка.*

*У сваім казаньні Яго Эмінэнцыя кардынал К.Сьвёнтэк падзяліўся з вернікамі ўражаньнямі ад Міжнароднага Эўхарыстычнага Кангрэсу, удзельнікам якога ён быў, выказаў свае думкі аб ролі сьвятара ў сёньняшнім сьвеце, прыгадаў сустрэчы са Сьвятым Айцом падчас Кангрэсу.*

*Гэта нядзельная ўрачыстасьць адметная яшчэ і тым, што на ёй былі абвешчаны дэкрэты арцыбіскупа К.Сьвёнтка аб новых сьвятарскіх прызначэньнях.*

*У сувязі з пераходам пробашча катэдры Найсьвяцейшай Марыі Панны дзекана Мінска ксяндза Яна Шуткевіча на душпастырскую працу ў Вільні, часова выконваючым абавязкі пробашча катэдральнай парафіі прызначаны былі вікары катэдры ксёндз Антоні Клімантовіч.*

*У сваім заключным слове арцыбіскуп Казімір Сьвёнтэк выказаў глыбокую падзяку ксяндзу Яну Шуткевічу за яго ахвярную душпастырскую працу на Беларусі і пажадаў Божага блаславеньня ў яго далейшай сьвятарскай паслузе.*

# Слова ўдзячнасьці



Фрагмент роспісу касьцёла ў Лынтупах. 1985г.

Гэтыя чэрвеньскія дні былі асаблівыя ў жыцьці катэдральнай парафіі Найсьвяцейшай Марыі Панны ў Мінску. Было ў іх шмат суму і шмат ахвярнай малітвы, былі пранікнёныя словы ўдзячнасьці – сьведчаньне любові і павагі парафіянаў да свайго пробашча, да свайго душпастыра. І хоць сам ён, ксёндз дзекан Ян Шуткевіч, так часта сьцьвярджаў, што нельга прывыкаць да сьвятара як да чалавека, што трэба заўсёды абстрагоўвацца ад яго чалавечых якасьцяў, бачыць у ім адно слугу Божага, жыцьцё пастаянна даказвае нам, наколькі ўсё ж важная сама па сабе асоба сьвятара для вернікаў, наколькі важны высокі маральны аўтарытэт душпастыра, яго пабожнасьць і чалавечнасьць, яго чулае сэрца, яго здольнасьць да спачуваньня і ўменьне заўсёды прыйсьці на дапамогу не толькі словам, але і чынам. Менавіта ўсе гэтыя якасьці, прыхаваныя часам за зьнешняю строгасьцю і імпульсіўнасьцю творчай натуры, вызначаюць ксяндза Яна Шуткевіча. І менавіта найперш за гэта так любілі і цанілі яго парафіяне ўсе тры гады ягонай сьвятарскай паслугі ў Мінску. Дзякуючы яму, мінская катэдра стала асяродкам глыбокай традыцыйнай пабожнасьці. Цудоўныя нядзельныя адарацыі Найсьвяцейшага Сакрамэнту, узьнёслыя маёвыя і чэрвеньскія набажэнствы, гранічныя шчырасьць і сьмеласьць, з якімі ён можа сказаць праўду, яго глыбокая марыйнасьць умацоўвалі веру людзей, вярталі ёй жывы трывалы падмурак традыцыі...



Касьцёл у Лучаі. 1989г.

За чатырнаццаць гадоў душпастырскай працы на Беларусі ксяндзом Янам адноўлены касьцёлы і створаны парафіі ў Лынтупах, Камаях, Лучаі, Паставах, адбудаваны капліцы ў Мегунах, Маньковічах, Груздове. І ўсё гэта зроблена з вялікім мастацкім густам і дасьведчанасьцю, ва ўсё ўкладзена шмат сэрца, уменьня, вопыту, сьвятарскай і чалавечай ахвярнасьці. Многа сілы і здароўя забрала ў яго рэстаўрацыя мінскай катэдры НМП...









Касьцёл у Камаях. 1986г. Інтэр'ер касьцёла ў Камаях. 1986г.





Касьцёл і яго інтэр'ер у Паставах. 1990г.

Прыход сюды ксяндза Яна быў прадвызначаны Богам яшчэ ў 1953г., калі ён, маладым хлопцам праездам апынуўшыся ў Мінску, зазірнуў у сьвятыню, якую ў той жахлівы час атэізацыі рабавалі і нявечылі. Якісь пажылы чалавек, мабыць парафіянін катэдры, папрасіў юнака ўратаваць стары барокавы крыж са сьвятыні. Ян узяў крыж... Больш чым праз сорак гадоў з гэтым крыжам ён прыйшоў у нашу катэдру ўжо як пробашч і дзекан Мінска...

Ксёндз Шуткевіч быў патрэбны Касьцёлу на Беларусі. Былі патрэбныя яго вопыт, яго адданасьць Пану Богу і сьвятарскай паслузе. Але Провід Божы распарадзіўся інакш. Маці Божая Вастрабрамская, якую ксёндз Ян так глыбока шануе і любіць, пажадала, каб ён быў бліжэй да Яе. Спадзяемся, што дзякуючы яе малітвам, будзем бліжэй да Яе і мы, яго парафіяне. А Яна, Міласэрная Маці, няхай заўсёды атуляе ксяндза Яна сваёю апекаю і няхай дае яму тую паўнату дабрыні, спагады і ласкі, якой не маглі даць яму мы, звыклыя, слабыя людзі...

***М.Гурская***



У Мінскай катэдры НМП

# НАДЗЕЯ ЎЗМАЦНЯЕЦЦА

***Пабыць у Гродзенскай духоўнай семінарыі мне хацелася даўно, найперш дзеля таго, каб зразумець, ці не дарэмна многія з нас, вернікаў, зьвязваюць з ёю свае надзеі на паўнакроўнае адраджэньне каталіцкага жыцьця на Беларусі. Бо яшчэ і цяпер ёсьць шмат касьцёлаў, якія не маюць свайго пробашча, і многім ксяндзам даводзіцца абслугоўваць па некалькі парафій. Людзі спадзяюцца на маладыя сьвятарскія сілы, але за гэтай надзеяй не-не дый прамільгне асьцярожлівае: "А якімі яны будуць, тыя маладыя сьвятары?" Гэты клопат вырас з перарваных традыцый, што складваліся стагоддзямі, з парушанай пераемнасьці пакаленьняў. Якім будзе наша маладое сьвятарства? Як яно авалодвае навукай? Што яго цікавіць? Што яму баліць? Ці будуць маладыя сьвятары разумець тых, хто іх чакае і моліцца за іх? Усе гэтыя і шмат іншых пытаньняў і прывялі мяне ў Гародню...***



Цягнік "Пецярбург-Варшава" прыбывае ў Гародню а восьмай раніцы. Гарадская "тройка" вязе мяне ў цэнтр старога горада, да катэдры — былога касьцёла і кляштара езуітаў, унікальнага помніка дойлідства, чыя гісторыя сягае ажно да першай паловы XVII стагоддзя. На лесьвіцы, што вядзе ў касьцёл, — фігура Хрыста з крыжам на плячах. Не так ужо і багата ў нас помнікаў, якія прымушаюць затрымацца пры іх і на нейкі час забыцца на штодзённы клопат. Гэты спыняе — куды б ты ні сьпяшаўся і які б клопат ні абцяжарваў твае плечы.

Уздоўж плошчы, мінаючы ранішніх энергічных гандляроў кветкамі, кіруюся да касьцёла і кляштара бернардынаў, знаёмага па здымках. На рагу вуліцы ён кантрастна паўстае з-за шэрых камяніцаў бялюткім мурам. Касьцёл высіцца на пагорку і стварае ўражаньне нейкага ўрачыстага ўзьлёту ў нябесную веснавую сінь. Зусім побач, унізе — плаўная сінеча Нёмана.

Іду да прыадчыненай бакавой брамы, што вядзе ў двор былога кляштару наступнікаў сьвятога Бернарда, якія жылі тут і ўзносілі свае малітвы да Пана Бога ў XVI-XIX стагоддзях. Колькі крокаў — і я трапляю ў даволі прасторны двор, засланы зялёным дыванам веснавой травы. Сьмеласьць, з якой мінулым вечарам вырушыла ў гэтую дарогу, застаецца за шырокай брамаю, яна чамусьці не можа праціснуцца разам са мной сюды, куды я ўжо даўно імкнулася. Я раблюся, мабыць, нечым падобнаю да чалавека, які набліжаецца да канфесіяналу: ведае, што дайсьці трэба, а ногі так ацяжэюць, што ледзьве рухаюцца, і з галавы да таго ж выветрываецца ўсё, што там было нядаўна. Але, як і з канфесіяналу чалавеку надае сьмеласьці зычлівы рух сьвятара, зьвернуты да яго, так і мне надалі адвагі постаці ў сутанах, што зьявіліся ў двары. Ого! Ды гэта ж мае знаёмыя! І праз момант я ўжо стаю ў атачэньні тых, з кім пройдзены не адзін кіламетр у пілігрымках, прамоўлены не адзін ружанец, праспявана не адна песьня хвалы Пану Богу. Марат Казлоўскі, Аляксандр Амяльчэня, Аляксандр Багдановіч, Алег Пяткевіч з Браслава, Вячаслаў Пялінак з Задарожжа, Андрэй Яркавец з Удзела, Сяргей Альхіменак з Глыбокага — усе ўсьмешлівыя, прыветныя і, здаецца, рады майму намеру напісаць пра семінарыю, пра іхняе жыцьцё-быцьцё. А значыць, усё будзе добра!

З гэтаю надзеяй паслухмяна падымаюся ўсьлед за імі на другі паверх, у пакой для гасьцей. Хлопцы ставяць маю сумку і, пачуўшы званок, які абвяшчае пачатак заняткаў, выбягаюць за дзьверы. Але праз хвіліну-другую я ўжо размаўляю з ксяндзом Тадэвушам Крыштопікам, ксяндзом-прэфектам Раманам Катлімоўскім, ксяндзом Тадэвушам Вышынскім, дыяканам Уладзімірам Каспарэвічам і маім знаёмым клерыкам Аляксандрам Амяльчэнем. Тлумачу ім мэту майго прыезду, пра-





шу дапамогі і вельмі спадзяюся на разуменьне. Здаецца, мяне зразумелі. Зьяўляюцца першыя ідэі, прапановы, пажаданьні. Ну што ж, за працу. А праца журналіста ў тым, каб паглядзець усё на свае вочы і потым распавесьці аб убачаным людзям.

Мая ж "праца" пачалася са сталовай, куды мяне гасьцінна запрасіў дыякан Уладзімір — падмацавацца не зашкодзіць. Хуценька глытаем гарбату з канапкамі, дзякуем кухаркам за гасьціннасьць, і Уладзімір згаджаецца паказаць мне семінарыю. Уваходзім у будынак. Насупраць пакоя дзяжурнага — сходы, якія вядуць уніз. Спускаемся па іх і трапляем у прасторную капліцу, дзе адбываецца штодзённая Сьвятая Імша. Кленчу перад Найсьвяцейшым Сакрамэнтам і прашу ў Бога яснасьці розуму, які дапамог бы мне найлепей зьдзейсьніць задуманае.

Блукаем з Уладзімірам па калідорах трохпавярховага будынка. За некаторымі дзьвярыма чуюцца галасы — ідуць лекцыі. Уладзімір распавядае, колькі працы запатрабаваў гэты дом, які вялікі рамонт давялося зрабіць. Цяпер тут чыста, сьветла, утульна, нібыта так і было заўсёды. Намагаюся ўявіць гэтыя калідоры ў той час, калі па іх хадзілі законьнікі-бернардыны. Зрабіць гэта не так ужо і цяжка, бо за дзьвярыма, паўз якія мы праходзім, чуецца сьцішаная супольная малітва. Уладзімір тлумачыць, што скончылася лекцыя і клерыкі дзякуюць Пану Богу за навуку. А яшчэ гэта азначае, што неўзабаве будзе кароткі перапынак.

Ксёндз Вышынскі запрашае папрысутнічаць на лекцыі па дагматыцы. З удзячнасьцю згаджаюся і ўпершыню ў жыцьці чую ў студэнцкай аўдыторыі вітаньне, у якім праслаўляецца Хрыстус. Няхай мне даруюць разумная, складаная дагматыка і ксёндз Тадэвуш, але ў часе лекцыі мне было цяжка засяродзіцца над патрэбнымі догмамі. Больш чамусьці думалася менавіта пра тое, якое гэта шчасьце — чуць нарэшце ў студэнцкай аўдыторыі навуку аб хрысьціянскай веры і ведаць: гэтыя студэнты жывуць тым, да чаго іх паклікала душа. Да майго сораму, я ў часе свайго студэнцтва вучыла навуковы атэізм. Праўда, няўдзячнай аказалася вучаніцай і таму сёньня я тут, у гэтай аўдыторыі, дзе маладыя людзі ў сутанах вучаць тое, аб чым у свой час мы і марыць не маглі. Дзякуй Табе, Божа, за тое, што і на нашай зямлі зьявілася магчымасьць мець сваіх сьвятароў.

Сярод студэнтаў бачу яшчэ аднаго майго земляка — Аляксандра Барылу. Яго і старэйшага брата Зьміцера ведаю ўжо некалькі гадоў. Зьміцер цяпер на дыяканскай практыцы ў Бабруйску, Аляксандр жа спасьцігае дагматыку. Дазволь ім, Пане, дачакацца сваіх прыміцый і шчасьліва распачаць сьвятарскую паслугу. Лекцыя сканчваецца малітвай, і праз момант калідоры запаўняюць клерыкі. Старэйшых ад малодшых адрозьніць лёгка: першы і другі курс апранутыя яшчэ па-сьвецку, астатнія ж у сутанах. Падбягае і вітаецца Аляксей Раманчук з Удзела, які некалі ў часе пілігрымкі да Маці Божай Будслаўскай так хораша і нястомна сьпяваў пад гітару, зусім не зважаючы на крывавыя раны на босых нагах. Такая ў яго тады была ахвяра – напэўна ж, яна прынесла палёгку нейкай змучанай душы. А яшчэ добра памятаю, як летась у ягоным родным Удзеле ён кінуў мне мімаходзь, жартаўліва перафразаваўшы правадыра пралетарыяту: "Маліцца, маліцца і яшчэ раз маліцца!"

У часе 20-хвіліннага перапынку паміж лекцыямі ксёндз Ежы Левіньскі запрашае на каву. Сёньня ў яго імяніны, і таму ён прымае віншаваньні. Кава вельмі смачная, торт таксама. Карыстаючыся выпадкам, напрошваюся да ксяндза Ежы на гутарку, бо менавіта ён выконвае ў семінарыі функцыю, падобную да працы загадчыка па навучальнай частцы. Але, нягледзячы на імяніны, у ксяндза Ежы вялікая нагрузка і спланаваць адразу гутарку не ўдаецца. Адкладваем на заўтра.

Ксёндз Тадэвуш Крыштопік запрашае на лекцыю. Згаджаюся. "Urbanitas" — так называецца гэты курс, які адным словам і не перакладзеш з лаціны на беларускую мову — навука аб культуры паводзінаў. Сёньня ксёндз Тадэвуш распавядае пра тое, як сьвятар павінен абставіць сваё жытло, прадугледзеўшы ў ім для ўсяго адпаведнае месца. Першакурсьнікі задаюць пытаньні, выказваюць свае меркаваньні.

У часе наступнай лекцыі мяне зноў запрашаюць у тую ж аўдыторыю, да першага курса. Тут цяпер будзе беларуская мова, якую выкладае спадарыня Ірына. Неспадзявана мне прапануюць пагаварыць з клерыкамі, і я з задавальненьнем распавядаю ім пра нашу газету, пра некаторыя моманты сучаснай беларускай літаратуры і культуры, пра яе духоўныя здабыткі. Размаўляем па-беларуску. Дарэчы, у калідорах, на вуліцы, у часе перапынкаў даволі часта чула беларускую мову, што надавала надзею: гэтым людзям не будзе абыякавы лёс беларускай культуры, мовы, духоўнай спадчыны, перададзенай нам з мінулых часоў.

З усімі гэтымі думкамі іду разам з клерыкамі на абед. Але перш чым трапіць у сталовую, трэба напачатку зайсьці ў капліцу. Кароткія супольныя малітвы, разважаньні над тым, што добрага за гэтую палову дня ты зрабіў і чым мог абразіць Пана Бога. Маўклівая просьба аб прабачэньні. А цяпер... Цяпер можна і падсілкавац-

ца. Але перш чым узяць у рукі кавалак хлеба, вядома ж, трэба папрасіць Пана Бога блаславіць нас і гэтыя дары... Некалькі дзяжурных клерыкаў у белых фартухах спрытна падаюць і адносяць ад сталоў. Зазвычай, як мне растлумачылі, у часе абеду гаворыцца нейкае казаньне альбо чытаецца кніга. Але сёньня ў семінарыі ўрачыстасьць з нагоды імянінаў ксяндза Ежы, а таму і дадатковая праца адмяняецца. У сталовай стаіць гул: як ніяк, а калі сто дваццаць мужчын пададуць голас...

По абедзе — зноў на некалькі хвілінаў у капліцу. Памаліцца ды падзякаваць Пану Богу за хлеб штодзённы. Зрэшты, хто жадае, той можа затрымацца тут і надалей, бо цяпер у семінарыстаў да 16.00 вольны час. Яго карыстаюць хто на што: камусьці трэба напісаць дадому ліст, камусьці памыць бялізну, хтосьці хоча пачытаць кнігу, а хтосьці правесьці гэты час з ружанцам у капліцы.

З 16.00 да 18.00 — час самападрыхтоўкі. Пасьля 18.10 клерыкі падзяляюцца: адны ідуць на агульныя сьпевы, другія — на аскетычную канферэнцыю. Я, вядома ж, напрошваюся на сьпевы, якія праводзіць ксёндз Вышынскі. Ідзе падрыхтоўка да заўтрашняй Сьвятой Імшы. Заўтра чацьвер, і яна будзе адпраўляцца на лаціне. Сёньня, у сераду, яна адпраўляецца па-беларуску, але, на жаль, мой цягнік прыйшоў запозна. Клерыкі сьпяваюць. Ну, што тут скажаш: лаціна ў касьцельных сьпевах — гэта цуд. І ён нараджаецца ў аўдыторыі, якая, здаецца, рассунула свае сьцены ды прыўзьняла столь, даючы прастор цудоўнаму сьпеву. Але ксёндз Тадэвуш, нягледзячы на гэта, час ад часу прымушае вярнуцца да жыцьця, перапыняючы сьпевакоў і патрабуючы ад іх дасканаласьці. Што ж, праца ёсьць праца, і клерыкі зноў і зноў паўтараюць цалкам дасканалы, як на мае вушы, сьпеў.

Пасьля гэткіх заняткаў — самы час памаліцца. І мы ўсе зноў у капліцы — кароткія малітвы, разважаньні, просьба прабачэньня ў Пана Бога за магчымыя абразы Яго велічы і дабрыні.

Вячэра. Пасьля яе — яшчэ адно кароткае віншаваньне ксяндзу Ежы з ягонымі імянінамі. Клерыкі сьпяваюць, і расчулены ксёндз Ежы сардэчна дзякуе ім, а таксама кухаркам за сьвяточна прыгатаваны стол. Усё — як у добрай, дружнай сям'і, дзе ёсьць пашана да старэйшых, павага да малодшых і да сумленна выкананай працы. Сярод кухарак бачу законную сястру. Мне тлумачаць, што яна з Супольнасьці Сясьцёр Найсьвяцейшай Сям'і з Назарэту. У іх у Гародні — кляштар.

Пасьля вячэры — падзяка Пану Богу і некалькі хвілінаў вольнага часу. Аднекуль зьяўляецца мячык, і проста ў двары распачынаецца гульня. Сваёй спартыўнай залы ў семінарыі няма, і таму заняткі спортам праходзяць у такіх вось непрыстасаваных умовах. Праўда, іншы раз клерыкі выкарыстоўваюць для гэтага спартыўную пляцоўку суседняй школы.

Потым у семінарыі надыходзіць час асабістых заняткаў, духоўнага чытаньня. Будынак зноў прыціхае, даючы месца роздуму аб вечным.

А палове дзесятай — вячэрнія малітвы. Капліца зноў запоўнена людзьмі, якія цэлы дзень падтрымліваюць свой кантакт з Богам. Займаю месца на "сваёй" лаўцы і я — каб падзякаваць Пану Богу за дзень, праведзены ў гэтых сьценах, сярод людзей у сутанах. Для мяне ён быў карысны, гэты дзень.

Пасьля вячэрніх малітваў у семінарыі наступае silentium — час сьвятога маўчаньня, які будзе доўжыцца да заўтрашняй раніцы, да таго часу, калі семінарысты выйдуць з капліцы пасьля Сьвятой Імшы. Толькі тады яны загавораць на поўны голас. Цяпер жа — ціша, а калі і зьявіцца ў каго пільная патрэба штосьці сказаць, то гэта можна зрабіць толькі шэптам.

Я пакідаю сьцішаную семінарыю і разам з пані Ірэнай накіроўваюся да сясьцёр-назарэтанак з просьбай аб начлезе. Сястра Стэла прымае нас прыветна. Знаёмімся, яшчэ трошкі размаўляем, і яна паслужліва пакідае мяне ў пакоі, дзе падрыхтаваны ўжо ложак. З зайздрасьцю аглядаю кніжныя паліцы і разумею, як безнадзейна мала я буду ў Гародні для гэтых кніг.



Сьвята Божага Нараджэньня
ў семінарыі.





Назаўтра падымаюся а палове сёмай — па семінарскім раскладзе, і праз паўгадзіны дзяжурны клерык сустракае мяне каля брамы. Сьпяшаемся на ранішнія малітвы. А палове восьмай — Сьвятая Імша. Сярод тых, хто яе справуе, пазнаю выкладчыкаў. У капліцы ж — іхнія вучні. Сёньня Імша адпраўляецца на лаціне. Малітвы на гэтай сівой і мудрай мове ўзьлятаюць у неба з вуснаў маладых хлопцаў гэтак жа натуральна, як і на беларускай альбо польскай. Не можа не кінуцца ў вочы пачуцьцё асаблівай сьвятасьці, з якой справуецца Імша. Яна — у кожным руху сьвятароў, міністрантаў, у кожнай малітве. І раптам ясна ўсьведамляеш, як іншы раз не стае нам адчуваньня гэтай сьвятасьці, надзвычайнасьці таго, што адбываецца ў часе Сьвятой Імшы. А яшчэ думаецца аб тым, што ні ў якім разе нельга прывыкаць да абраду Сьвятой Імшы – кожны раз яго трэба перажываць нанова, з трапяткім адчуваньнем у душы блізкасьці Бога і Яго вялікай, усёўладнай любові.

Так пачаўся другі мой працоўны дзень у Гродзенскай духоўнай семінарыі. У ім было некалькі цікавых гутарак з выкладчыкамі і клерыкамі, частка якіх зьмешчана ў гэтым нумары.

У чацьвер, па абедзе, клерыкі маюць магчымасьць схадзіць у горад. Вячаслаў Пялінак разам са сваім сябрам Канстанцінам Бендаў вырашаюць наведаць горад разам са мной, а значыць, паказаць мне гродзенскія сьвятыні. Вяртаючыся назад, яны распавялі мне пра дабрачынную сталоўку для бедных, якую арганізавалі і ўтрымліваюць сёстры-назарэтанкі...

Яшчэ некалькі размоў. Вячэра. Малітвы. Адарацыя Найсьвяцейшага Сакрамэнту, якую праводзіць дыякан Уладзімір Каспарэвіч. Разам з усімі стаю прад Богам на каленях і ў душы дзякую Яму за гэтыя два дні, падораныя мне, за семінарыю, падораную нашай зямлі і яе вернікам-католікам, якія зьвязваюць з ёю шмат сваіх надзей. Думаю, небеспадстаўна.

Позна ўвечары пакідаю сьцены дома з таямнічай для сьвецкага чалавека назвай — семінарыя.

...Ужо за поўнач, а мы ўсё сядзім і размаўляем з законнай сястрой Лаўрай: гэта, аказваецца, яна працуе ў семінарскай сталоўцы, дзе я і сустрэла яе ўчора. Лаўра родам з Беласточчыны, і ў яе гаворцы міла праскокваюць беларускія словы. Пытаю, ці не хацела б яна вярнуцца на радзіму? "Не, — ціха адказвае сястра Лаўра, — я палюбіла гэты край". Дзякуй табе, дарагая сястра. Мы яго таксама любім. Часам гэта няпроста, часам вельмі балюча, але як жа нам жыць у ім, без любові?!

Назаўтра, а пятай раніцы мяне зноў сустрэлі ўсьмешлівыя вочы сястры Лаўры; яна паднялася трошкі раней, каб мяне праводзіць. Разам падымаемся па сходах у капліцу, яна тут жа — у кляштарным дамку. Капліца маленькая, але ў ёй жыве Бог, і пад Яго добрым паглядам жывуць, моляцца і робяць добрыя справы для Бога і людзей сёстры-назарэтанкі.

На вакзале разьвітваемся, і сястра Лаўра сьпяшаецца ў семінарскую сталовую. Няхай будуць смачныя стравы, прыгатаваныя яе рукамі! Яны, вядома ж, не галоўнае ў жыцьці клерыкаў, але й зусім не апошняе. Аўтобус вырушае ў дарогу, і Гародня, з якой вернікі зьвязваюць свае надзеі, застаецца прыемным успамінам. Але затое мая надзея ўзмацняецца: у нас будзе добрае сьвятарства.

*Ірына ЖАРНАСЕК*



Дзеля таго, каб сёньня Гродзенская вышэйшая духоўная семінарыя магла працаваць у поўную сілу, клерыкам у свой час давялося шмат папрацаваць фізічна.

AveMaria

ДВА ДНІ Ў ГРОДЗЕНСКАЙ ДУХОЎНАЙ СЕМІНАРЫІ

# З БОЖАЙ ДАПАМОГАЙ УСЁ АДОЛЕЦЬ МОЖНА

*Ксёндз-прэлат Ежы Левінскі нарадзіўся ў г.п. Дзятлава, на Навагрудчыне. Скончыў духоўную семінарыю ў Сандамежы, пасьля па накіраваньні ксяндза-біскупа вучыўся ў Люблінскім каталіцкім універсітэце на аддзяленьні кананічнага права. Там атрымаў званьне магістра, потым — доктара. Амаль дваццаць гадоў адпрацаваў у Сандамежы, пасьля, па запрашэньні біскупа Кандрусевіча, прыехаў на Беларусь. У семінарыі працуе з дня яе заснаваньня.*



***— Ойча Ежы, у семінарыі Вы кіруеце ўсім навучальным працэсам, таму хацелася б пачуць ад Вас пра тое, як арганізаваны гэты працэс і якія прадметы вывучаюць семінарысты.***

— Да нядаўняга часу ў семінарыі існавала пяцігадовая форма навучаньня. Цяпер жа, улічваючы вопыт і вялікую нагрузку, мы перайшлі на шасьцігадовую. Першыя два гады асноўным кірункам навучаньня ў нас, як і раней, застаецца філасофія, а вось тэалогію мы будзем вывучаць чатыры гады. Але гэта — асноўныя кірункі навучаньня. Акрамя таго, мы вывучаем самыя розныя прадметы, напрыклад, гісторыю філасофіі, логіку, метафізіку, псіхалогію, філасофію рэлігіі. Усе гэтыя назвы Вам пра штосьці кажуць. А вось, да прыкладу, такі прадмет, як тэадыцыя, напэўна ж, незнаёмы. Гэта навука пра Бога, гэтаксама, як і тэалогія, адно, што тэалогія абапіраецца на Сьвятое Пісаньне, а тэадыцыя — толькі на розум. Як Вы заўважылі, у нас ёсьць прадметы, якія існуюць і ў сьвецкіх навучальных установах, але ёсьць і асаблівыя. Для таго, каб вывучаць філасофію, не абавязкова верыць у Бога, але для вывучэньня, напрыклад, тэалогіі, абавязкова патрэбна яшчэ і вера. Першыя два гады нашы клерыкі вывучаюць і беларускую мову. Патрэбна яна ім? Вядома ж, патрэбна.

***— Дарэчы, а якія яшчэ мовы вывучаюцца ў семінарыі?***

— Ангельская, польская. Зразумела, што кожны ксёндз павінен умець чытаць на лаціне, якую ў нас вучаць чатыры гады. Ёсьць курс фанетыкі, які мае таксама вялікае значэньне, улічваючы, што нашы навучэнцы будуць зьвяртацца да людзей з амбоны.

***— Што Вы скажаце пра папрокі сьвецкай прэсы за польскамоўнае выкладаньне ў Гродзенскай духоўнай семінарыі?***

— Такія папрокі робяцца з тае прычыны, што людзі, далёкія ад праблем Касьцёла на Беларусі, проста не ведаюць, што нам не хапае беларускамоўных выкладчыкаў. Да таго ж, практычна амаль што няма патрэбнай літаратуры на нацыянальнай мове. Гэта наша бяда. Тое-сёе робіцца ў гэтым накірунку — зьяўляюцца першыя кнігі, брашуры, перыядычныя выданьні, але ўсё гэта кропля ў моры.

***— Мяне ў дадзеным выпадку цікавіць і практычны бок: як у семінарыі вядзецца выкладаньне на першых курсах, калі клерыкі, за невялікім выключэньнем, не ведаюць польскай мовы? Ці не стварае гэта ім сур'ёзных дадатковых цяжкасьцяў і ці не зьяўляецца гэта прычынай таго, што ў семінарыі існуе даволі значны адсеў навучэнцаў?***

— Пачнем з апошняга — з адсеву. Рэч у тым, што ёсьць некалькі прычынаў, па якіх нашы навучэнцы пакідаюць сьцены семінарыі. Скажам, па здароўі. Альбо малады чалавек пачынае разумець, што сьвятарства — не ягоны шлях. Бывае і такое. І тут трэба не сьпяшацца з асуджэньнем, але пастарацца правільна зразумець сітуацыю. Лепш няхай чалавек цяпер пакіне семінарыю і знойдзе для сябе іншы шлях, чымсьці потым на парафію прыйдзе ксёндз, які не будзе цешыцца сваім сьвятарствам. Але ў любым выпадку семінарыя прыносіць карысьць кожнаму, хто пераступіць яе парог, хоць бы нейкі час пабудзе ў гэтай атмасьферы. Хто ведае, можа, тое, што малады чалавек пачуў і перажыў у свой час у семінарыі, асьцеражэ яго потым ад нейкіх неразумных учынкаў, дапаможа трываць у каталіцкай веры, навучыць паважаць працу сьвятара.

Бываюць, праўда, выпадкі, калі юнак пакідае сьцены семінарыі, бо не мае патрэбных здольнасьцяў да вучобы, патрэбнай прагі ведаў, неабходнага жаданьня вучыцца. Але такое бывае і ў любых навучальных установах.

Што ж тычыцца мовы навучаньня, то мы добра разумеем цяжкасьці нашых клерыкаў і імкнемся аблегчыць іх. Першыя два гады яны адказваюць на той мове, якую ведаюць лепш. Некалькі нашых выкладчыкаў паходзяць з Беларусі — і я, і ксёндз Варанецкі, і ксёндз Вышынскі родам з тутэйшых мясьцінаў. Пазнаньне расейскай мовы для нас было даволі суровым — у сталінскіх лагерах. Так што, паразумецца нам з клерыкамі зусім няцяжка. А, напрыклад, ксёндз Тадэвуш Крыштопік і ўвогуле добра ведае нашу мову — займаецца выданьнем рэлігійнай літаратуры па-беларуску. Але ж клерыкі вывучаюць і польскую мову, што, безумоўна, прынясе ім карысьць.

***— Веданьне любой мовы ніколі не зашкодзіць.***

— Менавіта так. Трэба ўлічваць яшчэ і тое, што ў Польшчы выдаецца вялікая колькасьць рэлігійнай літаратуры, а гэта для кожнага ксяндза — хлеб на доўгія гады.

***— У вас вывучаецца некалькі моў. А ці ёсьць літаратура, якая зьяўляецца абавязковым вынікам моў?***

— Мы вывучаем рэлігійную літаратуру. Ёсьць цікавы курс патралогіі — навукі айцоў Касьцёла. Вывучаецца гісторыя Касьцёла — вельмі цікавы і насычаны падзеямі курс. Альбо яшчэ адзін курс — уводзіны ў аскетыку, якая вывучае ўнутранае жыцьцё чалавека.

***— Даруйце, у вас гэтак шмат прадметаў, а выкладчыкаў, як я заўважыла, не так ужо і багата. Як жа вы спраўляецеся? Адзін чалавек выкладае па некалькі дысцыплінаў? Да прыкладу, што выкладаеце Вы?***

— Даволі шмат: на чатырох курсах — лаціну, а яшчэ — псіхалогію, метафізіку, кананічнае права, а раней выкладаў антрапалогію і ўступ ў тэалогію.

***— Ого! Цяпер разумею, чаму Вам так цяжка было выкраіць час для нашай гутаркі.***

— І я зусім не выключэньне. У нашых выкладчыкаў вельмі вялікая нагрузка. Але Вы, мабыць, ужо самі пераканаліся, што ўсе яны з разуменьнем ставяцца да такога напружанага рытму працы. Апрача таго, мы карыстаемся дапамогай сьвятароў, якія працуюць на парафіях. Яны прыязджаюць да нас па дамове на пэўны час, каб прачытаць курс нейкіх лекцый. Да прыкладу, у нас выкладае нават біскуп з Польшчы Эдвард Самсэль.

***— А што вывучаюць клерыкі на пазьнейшых курсах?***

— З трэцяга курса пачынаецца глыбокае вывучэньне тэалогіі. Зьяўляецца курс апалагетыкі — навукі пра абарону веры. Ёсьць такая навука, як дагматычная тэалогія, што вывучае тыя догмы, у якія мы верым. Ёсьць курс маральнай тэалогіі — навукі аб тым, як чалавек павінен жыць, якімі прынцыпамі павінен кіравацца ў сваім жыцьці дзеля таго, каб быць у суладзі з хрысьціянскай верай. А вось аскетычная тэалогія вывучае патрабаваньні да ўнутранага жыцьця чалавека, які верыць у Хрыста. Вядома ж, вывучаюцца Стары Запавет і Новы Запавет. Абавязковым зьяўляецца і вывучэньне кананічнага права. Безумоўна, вялікую карысьць прыносіць знаёмства з гісторыяй мастацтва. Кожны сьвятар павінен адрозьніваць, да прыкладу, готыку ад барока альбо ракако. Многім нашым выпускнікам давядзецца рэстаўраваць касьцёлы, а гэта

вельмі адказна, бо заўсёды ёсьць небясьпека зрабіць шкоду. Ксёндз павінен разумець пэўныя асновы дойлідства, выўленчага мастацтва. Усяму гэтаму трэба вучыцца — вучыцца ўзнаўляць старое, будаваць новае, з густам аздабляць сьвятыні. Але якую б дысцыпліну мы ні вывучалі, заўсёды трэба памятаць, што ўсё гэта дзеля таго, каб несьці людзям слова Божае. І тут узьнікае новая праблема: як яго несьці? Якім словам, якім спосабам абвяшчаць яго, каб гэта было пераканаўча і закранала людзкія душы? Усяму гэтаму вучыць яшчэ адна дысцыпліна — гамілетыка. Гэта своеасаблівая навука аб тым, як гаварыць казаньні.

Альбо яшчэ такі важны і неабходны прадмет, як літургіка — навука аб тым, як справуецца Сьвятая Імша, якім чынам павінна стварацца адпаведная атмасьфера пры алтары. Прадмет выкладаецца на працягу ўсяго тэрміну навучаньня ў семінарыі. Зрэшты, плады яго бачныя кожны дзень на Сьвятой Імшы ў нашай капліцы.

— ***Я заўважыла гэта: абрад Сьвятой Імшы ў вас нясе адбітак нейкай асаблівай красы і ўрачыстасьці. Такое ўражаньне, што ўся Сьвятая Імша праходзіць на адным дыханьні.***

— Гэта заўважаюць усе. Так і павінна быць. Пазьней малады сьвятар, працуючы на сваёй парафіі, будзе ўспамінаць набажэнствы ў семінарыі як эталон. І тут трэба адзначыць самае важнае і істотнае. Сьвятая Імша — гэта глыбокая пашана, пакланеньне, аддаваньне хвалы Богу, найпрыгажэйшая малітва, вяршыня літургіі — справуецца ў нас на трох мовах: беларускай, лацінскай і польскай. І ўвесь навучальны працэс у семінарыі імкнецца да гэтага.

Вялікая заслуга ў падрыхтоўцы Сьвятой Імшы па-беларуску належыць ксяндзу Тадэвушу Вышынскаму.

Пачынаючы з трэцяга курса, у нас вывучаецца катэхетыка — навука аб тым, як вучыць дзяцей, а часам і дарослых, рэлігіі. На апошніх курсах нашы клерыкі маюць таксама судовую практыку — няхай Вас не зьдзіўляе гэты тэрмін.

— ***Прызнацца, трохі зьдзіўляе.***

— Рэч у тым, што ў Гародні знаходзіцца міждыяцэзіяльны альбо, інакш кажучы, касьцёльны суд. Ён разглядае даволі складаныя пытаньні, дарэчы, у ім працуе наш ксёндз Варанецкі. Зразумела, што кожны ксёндз павінен ведаць, якімі пытаньнямі займаецца гэты суд, як можна ў яго зьвярнуцца і г.д.

Як бачыце, вучыцца нашым клерыкам даволі складана, але я не сказаў бы, што нецікава. Ім трэба шмат пасьпець за гады вучобы — гэта праўда, але з Божай дапамогай можна адолець і не такое.

— ***А калі цяжэй вучыцца — напачатку альбо напрыканцы?***

— Зазвычай да нас прыходзяць людзі, поўныя запалу. У большасьці яны добра вучацца, хапаюць навуку, як кажуць, на ляту. Нават метафізіка з яе мноствам складаных тэрмінаў і паняццяў ім, няхай сабе і паволі, але ўсё ж паддаецца, а потым гэты запал пакрысе аціхае: у адных ён ператвараецца ў сур'ёзную, сістэматычную працу, у другіх можа зьменшыцца, а то і зусім зьнікнуць. Але мы, выкладчыкі, трымаемся цьвёрдага правіла: семінарыя павінна выпускаць годных сьвятароў, з трывалым запасам ведаў, адпаведным выхаваньнем і ўменьнем весьці да каталіцкай веры іншых. І ад гэтага правіла мы не збіраемся адступацца.

— ***Што ж, з навукай больш-менш зразумела, а цяпер распавядзіце, калі ласка, хоць бы трохі пра вакацыі, каб у нашых чытачоў не склалася ўяўленьня, што клерыкі за кнігамі сьвету не бачаць.***

— Надыходзіць лета — пара вакацый. Але яно — не суцэльны адпачынак, асабліва для тых, хто ўжо атрымаў сутаны. Клерыкі маюць месяц практыкі ў парафіі, пасьля яны прыязджаюць у семінарыю на тры тыдні і выконваюць тут самыя розныя рамонтныя работы. Усё, што тут аднаўлена, зроблена рукамі клерыкаў. А працы было вельмі шмат. Увесь трэці паверх добраўпарадкаваны — вывезьлі столькі друзу, што цяжка ўявіць. У часе летняй працы клерыкі, як і ў навучальны перыяд, маюць магчымасьць штодня ўдзельнічаць у Сьвятой Імшы, адведзены час і для малітваў, разважаньняў — словам, духоўныя практыкі не парушаюцца.

— ***Апрача таго, ведаю, што ўлетку клерыкі маюць і яшчэ адзін сур'ёзны занятак — удзел у розных пілігрымках. Ведаю гэта з уласнага вопыту, бо кожнае лета парафіяне з Полацка ды Навапалацка з***





***нецярплівасьцю чакаюць клерыкаў з Глыбокага і Браслава, якія вось ужо некалькі гадоў удзельнічаюць разам з намі ў пілігрымках да Маці Божай Будслаўскай. Вялікі дзякуй ім за гэта, а вам — за іх выхаваньне.***

— Прыемна чуць добрыя словы пра нашых навучэнцаў. Мы ўдзельнічаем у розных пілігрымках: першая, у якой мы прымалі ўдзел, была з Масквы ў Аглону, што ў Латвіі. Было гэта ў 1992 годзе. Пілігрымы з Масквы даехалі тады цягнікам да Рыгі, а адтуль ужо ішлі пешкі, і нашыя клерыкі ішлі разам з імі, дапамагалі ў арганізацыі шляху. На наступны год масквічы рабілі пілігрымку ў Магілёў — даехалі цягніком да Смаленска, а адтуль — пешкі. І зноў жа: я з групай клерыкаў прыехаў у Смаленск, каб разам з імі разьдзяліць гэты шлях. А ў 1994 годзе разам з масквічамі мы ішлі ад Оршы да Будслава. Апошнія два гады ўдзельнічалі ў пілігрымцы з Гародні ў Тракелі. Гэта былі запамінальныя дні, поўныя духоўных разважаньняў, малітвы, цікавых сустрэч. Апрача таго, тых семінарыстаў, якія хадзілі са мной, я ўзяў з сабой у пілігрымку да Чанстаховы. Даехалі да Сандамежа, а адтуль ужо 230 кіламетраў ішлі пешкі. Трэба памятаць, што пілігрымкі — таксама вучоба, духоўныя практыкі, апостальства, якое давядзецца несьці праз усё жыцьцё.

— ***Выбачайце, калі ласка, але асабіста Вас не стамляюць гэткія няблізкія пераходы?***

— Стамляюць. Як і кожнага пілігрыма. Але гэта здаровая стома. Да таго ж, я — пілігрым са стажам: 18 гадоў запар кожнае лета ўдзельнічаю ў пілігрымках да Чанстаховы.

— ***Сёлета таксама пойдзеце?***

— Калі Бог дазволіць — пойдзем. Ужо паабяцаў клерыкам. У жніўні ў мяне будзе адпачынак, а 15 жніўня спадзяемся быць у Чанстахове.

— ***Магу пажадаць Вам толькі шчасьлівай дарогі. Але напрыканцы, паколькі Вы яшчэ не ў дарозе, дазвольце задаць Вам яшчэ адно пытаньне. Будучае кожнай навучальнай установы ў многім залежыць ад выкладчыкаў. Ці ёсьць у гэтым сэнсе перспектыва ў семінарыі?***

— Мы добра разумеем, што ў нас павінны быць мясцовыя выкладчыкі, якія б добра ведалі тутэйшыя ўмовы, патрэбы Касьцёла на Беларусі. Бо, як вядома, любы арганізм не можа нармальна функцыянаваць толькі на донарскай крыві, трэба, каб выпрацоўвалася свая жыцьцядайная кроў. Першыя крокі ў гэтым плане ўжо зроблены. Прынята такое рашэньне: пасьля заканчэньня семінарыі малады сьвятар мае год практыкі, а потым, калі ў яго будзе такое жаданьне і, вядома ж, патрэбныя здольнасьці, ён можа прадоўжыць вучобу, напрыклад, у Люблінскім каталіцкім універсітэце. Вось нядаўна на факультэт кананічнага права паступіў Юзаф Станеўскі. Вучыцца пасьпяхова, на вакацыі прыязджае на радзіму. у сваю парафію, адкуль быў пасланы. Падобную практыку думаем прадаўжаць. Але, як Вы самі разумееце, на ўсё патрэбны час. Я ўпэўнены: пройдзе яшчэ колькі гадоў — і на Беларусі будзе не толькі сваё маладое сьвятарства, але зьявяцца і таленавітыя кадры выкладчыкаў, прафесараў. Гэта надасьць нашай семінарыі пэўную самастойнасьць, створыць патрэбныя ўмовы для творчага росту.

— ***Ну што ж, на гэтай аптымістычнай ноце мы і закончым нашую гутарку, за якую я шчыра Вам дзякую.***



У пілігрымцы.

# “НЯМА Ў НАС ПРАВА НА БРАК У ПРАЦЫ”



*Ксёндз-пралат Міхал Варанецкі працуе ў семінарыі з дня яе заснаваньня. За плячыма гэтага сьвятара — доўгія гады службы ў Касьцёле. Зьведаў ён і медны руднік, куды быў засуджаны сталінскім судом. Маючы багаты жыцьцёвы і сьвятарскі вопыт, ксёндз Варанецкі шчодра дзеліцца ім з семінарыстамі.*

***— Ойча Міхал, наколькі Вы працуеце ў семінарыі з дня яе заснаваньня, то хацелася б пачуць ад Вас колькі слоў пра тое, з чаго пачыналася гэтая навучальная ўстанова.***

— У другой палове 80-х гадоў пачалі нанова адчыняць дзьверы многія сьвятыні. Людзі акрыялі душой і з вялікім уздымам ды радасьцю вярталі сваім касьцёлам іхняе сапраўднае абліччa. Але не хапала сьвятароў. І гэта было вялікім клопатам біскупа Тадэвуша Кандрусевіча, які працаваў тады ў Беларусі. Вядома, што ў той час прыехалі на дапамогу ксяндзы з Польшчы, але ж усе мы разумелі, што гэта часова. Таму трэба было клапаціцца, каб у Беларусі паўставала сваё сьвятарства, якое б добра ведала традыцыі свайго народа, менталітэт мясцовага люду, якое б жыло ягонымі праблемамі. І тады біскуп Кандрусевіч зрабіў, можна сказаць, гістарычны крок для развіцьця Касьцёла на Беларусі — ён вырашыў адчыніць духоўную семінарыю ў Гародні. 1 верасьня 1990 года ягоным дэкрэтам і была адчынена вышэйшая духоўная семінарыя. Лічу, што гэта быў вельмі сьмелы і мудры крок, бо старэйшыя сьвятары паволі адыходзяць, маіх равесьнікаў засталося ўжо няшмат на зямлі — трэба думаць пра будучае.

***— Мне ўжо распавядалі, што ў спадчыну вы атрымалі незайздроснае памяшканьне.***

— Першапачаткова нам была аддадзена невялікая частка былога Бернардынскага кляштару, у якім на той час знаходзіліся розныя медычныя ўстановы. Патрабавалася шмат высілкаў, каб прывесьці некалькі тых пакояў у належны стан. Але гэта не самае галоўнае. Галоўным было тое, што ў Беларусі распачынала сваю працу каталіцкая духоўная семінарыя. У першы год да нас прыйшло вучыцца 40 кандыдатаў, а праз шэсьць гадоў мы ўжо сьвяткавалі першыя пасьвячэньні… Ці трэба тлумачыць, якое гэта было вялікае сьвята для ўсіх нас? А сёньня мы ўжо з поўным правам можам сьцьвярджаць, што семінарыя цалкам выконвае свае функцыі ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі Другога Ватыканскага Сабору.

***— Скажыце, калі ласка: маладыя людзі, якія прыходзяць вучыцца ў семінарыю, павінны валодаць нейкімі асаблівымі якасьцямі?***

— Найперш яны павінны пачуць у сабе покліч службы Пану Богу, ну і, вядома ж, мець моцнае жаданьне рэалізаваць сваё пакліканьне. У семінарыі маладыя людзі маюць магчымасьць атрымаць комплекс ведаў па асобных дысцыплінах, а яшчэ, што вельмі важна, маюць магчымасьць узрастаць духоўна. Мы разумеем, што духоўнае разьвіцьцё нашых клерыкаў да таго, як яны прыйшлі вучыцца ў семінарыю, часта развівалася вельмі марудна, з многімі і многімі перашкодамі. Нярэдка галоўным іхнім духоўным настаўнікам была бабуля, якая магла навучыць свайго ўнука пацерам, штосьці распавесьці пра Боженьку, Маці Божую… Вядома, вялікі ёй дзякуй і за гэта, але ж чалавек павінен духоўна дасканаліцца, бо перапынак у духоўным разьвіцьці можа часам дорага каштаваць. І семінарыя выконвае гэтую функцыю — яна дапамагае чалавеку расьці духоўна.

***— Вы ведаеце гэта як найлепш, бо зьяўляецеся духоўным айцом клерыкаў, і каму як не Вам ведаць пра той духоўны запас, з якім хлопец прыходзіць у семінарыю, бачыць, як той запас павялічваецца, набірае моцы, трываласьці.***

— У семінарыі два духоўныя айцы — я і ксёндз Марыюш Зыгадла. Так, працэс росту навучэнцаў адбываецца на нашых вачах, ён прыкметны, не можа не радаваць. Мы назіраем, як клерыкі год ад году ўсё больш цікавяцца справамі Касьцёла, уліваюцца ў яго традыцыю і адначасна самі ствараюць традыцыю — духоўнай семінарыі.

***— Думаю пра тое, што клерыкі, безумоўна, чэрпаюць шмат карыснага з вашага сьвятарскага і жыцьцёвага вопыту: Вам хутка споўніцца дзевяноста — узрост вельмі паважаны. Не задужа цяжка Вам працаваць з маладымі?***

— А хто сказаў, што павінна быць лёгка? Вядома, няпроста. І вельмі адказна, бо духоўны айцец кшталтуе душы будучых сьвятароў. Прызнаюся, напачатку я сам быў уражаны, калі біскуп Кандрусевіч прапанаваў мне пайсьці папрацаваць у семінарыю. Я ўжо думаў пра вечны спачын, нават выбраў месца для сябе на цьвінтары ў Ружанах, дзе тады служыў. Але выйшла так, што я яшчэ магу, а значыць, і мушу паслужыць Касьцёлу на Беларусі. І цяпер ужо разам з клерыкамі мы шукаем адказы на няпростыя пытаньні, якія паўстаюць перад чалавекам штодня: што такое наша вера, у чым яе сутнасьць, якой яна павінна быць, каб мы не аддаляліся, але наадварот, набліжаліся да Бога, да крыніцы Яго вечнага дабра і ўмелі з удзячнасьцю чэрпаць з яе вялікі скарб. Чэрпаць, наталяць смагу нашых душ дзеля таго, каб потым кожны з нас мог перадаваць гэтую няпростую навуку іншым.

***— І як Вы гэта робіце?***

— Я прызнаю і ўжываю ў практыцы ўсе тыя метады і сродкі, якія рэкамендаваны Каталіцкім Касьцёлам для духоўных семінарый ва ўсім сьвеце. Указаньні ж і рэкамендацыі для вышэйшых духоўных семінарый сабраныя ў дакументах Vaticanum II, у статутах і палажэньнях аб семінарыях.

Фармаваньне духоўнага жыцьця клерыка мае вельмі важнае значэньне. Для гэтага прыдатныя розныя духоўныя навучаньні, сакрамэнты. Выключнае значэньне мае сакрамэнт спаведзі, а таксама індывідуальнае духоўнае кіраўніцтва. Усё гэта разьлічана на тое, што цяперашнія нашы студэнты возьмуць некалі на сябе адказнасьць за кшталтаваньне іншых душаў.

***— Своеасаблівая ланцуговая рэакцыя, калі выкрышталізаванае дабро ўтварае новае, памнажае яго і тым самым асьвячае навакольны сьвет.***

— Менавіта. На гэтым пабудаваны кожны выхаваўчы працэс, але хрысьціянскае выхаваньне і духоўнае кшталтаваньне асабліва гэтым вызначаюцца. Нашая задача — памнажаць дабро ў сьвеце, а ўжо метады пры гэтым могуць быць выкарыстаны самыя розныя.

***— Ойча, што найбольш ускладняе Вашу працу?***

— Складанасьцяў у кожнай працы хапае. Для нас жа, выкладчыкаў духоўнай семінарыі, яны найбольш заключаюцца ў тым, што часам хлопцы не маюць нават асноў

рэлігійнага выхаваньня. Гэта, безумоўна, не іх віна, але іх бяда, якая, асабліва напачатку, вельмі ўскладняе і вучобу, і духоўны рост. Калі б бацькі больш увагі ўдзялялі рэлігійнаму выхаваньню сваіх дзяцей, то і ў нас, і ў іх паменела б клопату тады, калі дзеці становяцца дарослымі. Рэлігійнае выхаваньне ніколі і нікому не зашкодзіць, якую б дарогу ў сваім жыцьці ні абраў потым малады чалавек альбо дзяўчына. Але ў некаторых нашых навучэнцаў не заўсёды і самі бацькі вераць у Бога. У такім выпадку малады чалавек павінен разлічваць на ласку Божую ды прыкладаць шмат намаганьняў, каб напоўніцу скарыстаць яе. Большасьць клерыкаў працуе сур'ёзна і адказна, а таму і вынік бачны: яны мяняюцца літаральна на вачах. Прыязджае іншы раз клерык пасьля вакацый з дому і радасна паведамляе, што маці ягоная ўсьцешылася: "Ой, як жа ты, сынку, зьмяніўся!" I гэта праўда: яны мяняюцца нават з твару, вонкава. Але зноў жа: за ўсім гэтым — праца, праца і праца. Наша сумесная — выкладчыкаў і выхаванцаў.

***— Скажыце, а ці падтрымліваеце Вы сувязь з былымі клерыкамі, якія ўжо працуюць дзесьці на парафіях?***

— Вядома. Нам жа не ўсё роўна, як сустрэнуць іх у парафіях, як ім удасца наладзіць кантакт з людзьмі. Прызнаюся, першыя нашы сьвятары нас радуюць. Напрыклад, Юзаф Ганчыц пабыў вікарыем у Ашмянах, а цяпер атрымаў ад біскупа прызначэньне на пробашча ў Ліду. Да таго ж, праца там вельмі адказная — трэба будаваць касьцёл. Але ён вельмі энергічна ўзяўся за справу, і яна рухаецца даволі пасьпяхова. Тое ж можна сказаць і пра Антонія Саміла, які працуе непадалёк ад Гародні, у Гожы. Падобныя прыклады можна было б доўжыць.

***— Ойча, лічу сваім абавязкам сказаць, што вынікі Вашай асабістай працы і працы ўсіх выкладчыкаў семінарыі цешаць і нас, вернікаў, бо першыя Вашыя выпускнікі прыйшлі працаваць на парафіі, і гэта вельмі радуе. Будзем спадзявацца, што назаўсёды адыдуць у нябыт тыя часы, калі адзін ксёндз абслугоўваў па пяць-шэсьць парафій, а многія вернікі дзеля таго, каб атрымаць неабходныя сакраманты, павінны былі ехаць за сотні кіламетраў, не кажучы ўжо пра тое, што яны проста не мелі магчымасьці ўдзельнічаць у Сьвятой Імшы.***

— Краю, дзе доўгі час не было нармальных умоў для паўнакроўнага каталіцкага жыцьця, асабліва патрэбны добрыя сьвятары. Кожны брак у нашай справе прынёс бы дадатковую крыўду гэтай зямлі. Нельга дапусьціць гэтага, і таму няма ў нас права на брак у працы.

***— Даруйце, Вы самі родам з нашых мясьцінаў?***

— Я родам з-пад Вільні. Але ў 1908 годзе, калі нарадзіўся, гэта была тэрыторыя царскай Расіі.

***— Ойча, я начутая ад клерыкаў, што Вам давялося шмат выцерпець на сваім сьвятарскім шляху, спазнаць перасьлед за веру, выгнаньне. Калі можна, распавядзіце пра гэта.***

— У 1945 годзе былі ўстаноўлены новыя межы. Шмат хто з Віленшчыны тады выязджаў у Польшчу, я таксама зьбіраўся ў Кракаў, туды, дзе некалі вучыўся. Але Божы Провід пакіраваў так, што паехаў я не ў Кракаў, ды ў Лыскаў. Тры гады працаваў там пробашчам, там і быў арыштаваны органамі НКВД. Быў асуджаны на 25 гадоў пазбаўленьня волі. Суддзя мне сказаў так: "Я вышлю цябе ў медны руднік. Праз два гады ты і падохнеш там". Ну а я, як бачыце, не паслухаўся гэтага наказу: адбыў у Джэскагане сем гадоў і вярнуўся тады, калі з лагераў вярталася большасьць вязьняў "сталінскага прызыву". Атрымаў парафію ў Ружанах, там і адпрацаваў цэлых трыццаць чатыры гады. Вельмі мне там падабалася — мясьціны прыгожыя, маляўнічыя, гістарычныя. Але што ж, бываюць у жыцьці часам такія павароты: ты шукаеш сабе месца на цьвінтары, а табе вызначаецца шлях да маладых і прапануецца яшчэ штосьці зрабіць для Бога і людзей.

***— Дай Вам, Божа, здароўя і моцы, каб Вы і надалей працавалі дзеля будучыні Касьцёла на Беларусі.***

— Дзякуй.







***Ксёндз-прэфект Раман* КАТЛІМОЎСКІ:**

# "ТРЭБА ЎМЕЦЬ ШАНАВАЦЬ СЬВЯТАРСТВА"

Духоўная семінарыя — гэта інстытут, які рыхтуе маладых людзей да сьвятарскае службы ў Касьцёле. Заданьне адказнае. Таму вельмі важнае значэньне мае фармаваньне ўнутранага сьвету маладога чалавека, а таксама яго паводзінаў у штодзённым жыцьці. Людзі бяруць прыклад з ксяндза, з таго, як ён трымае сябе з іншымі, з яго культуры слова, паводзінаў. У семінарыі ёсьць сьпецыяльны курс аб культуры паводзінаў у штодзённым жыцьці. Але нельга адмаўляць і значэньня індывідуальных размоў з семінарыстамі аб выкананьні распарадку дня семінарыі, які рэгулюе нашае сумеснае жыцьцё. Для маладога чалавека вельмі важна навучыцца жыцьцю ў супольнасьці: разам перажываць час інтэлектуальнай падрыхтоўкі да экзаменаў, кожную Сьвятую Імшу, кожную лекцыю альбо выхад у горад. Дарэчы, у горад нашы клерыкі выходзяць звычайна па двое — каб маглі паразмаўляць на асабістыя тэмы, падзяліцца праблемамі.

Чалавеку, які ўпершыню трапляе ў семінарыю, нашыя правілы і патрабаваньні могуць здацца задужа суровымі. Але трэба зразумець, што наша дысцыпліна арганізавана не на ўзор нейкай вайсковай — гэта дысцыпліна духу, унутранага сьвету чалавека.

Зразумела, што ўпершыню спаткаўшы чалавека, мы яшчэ не можам бачыць ягонае сэрца, але мяркуем аб ім па тым, як ён апрануты, як трымае сябе, як размаўляе, ці шмат зычлівасьці ў ягоным голасе. Усяму гэтаму мы мусім навучыць клерыкаў, якія стануць сьвятарамі заўтрашняга дня. Сьвятарства — нялёгкая ноша. Яна вымагае вялікай ахвяры і сур'ёзнай працы.

У аснове нашага навучаньня і выхаваньня ляжаць словы Езуса Хрыста. Клерыкі вучацца ўспрымаць і разумець навуку Хрыста, каб потым простай, евангельскай мовай перадаваць яе тым, да каго яны будуць пасланыя.

Часта бывае так, што словы нейкага казаньня надоўга западаюць у душу, прымушаюць яшчэ і яшчэ раз разважаць над тым, аб чым гаварыў ксёндз. Чаму так здараецца? Ды таму, што ў тым казаньні было выразнае дзеяньне Сьвятога Духа, было аўтэнтычнае сьведчаньне сьвятара, які цешыцца сваім сьвятарствам, прагне, каб тыя, хто стаіць прад ім, па-сапраўднаму перажылі сустрэчу з жывым Езусам, які іх любіць. А найбольш цяжка пераказваць менавіта любоў. Дзеля таго, каб гэтаму навучыцца, трэба шмат і шмат працаваць. І ў гэтай працы не абысьціся без дысцыпліны духу. Тут, у семінарыі, клерыкі маюць цэлы дзень, распарадак якога для іх ужо хтосьці склаў. На парафіях яны будуць самі арганізоўваць свой дзень, у якім павінна хапіць месца і для малітвы, і для разважаньня, і для фізічнай працы, і для адпачынку... Усё гэта звязана з дысцыплінай духу.

Асаблівую ўвагу ў выхаваўчай працы мы надаем культуры выхаваньня. Слова, якое сьвятар скіроўвае да сваіх вернікаў, іншы раз вымагае вялікай цярплівасьці. Ксёндз не мае права павышаць на людзей голас, абыходзіцца з імі груба. Чаму? Ды таму, што Езус Хрыстус узяў крыж на свае плечы і дзеля гэтых людзей. І таму ксёндз таксама павінен браць на свае плечы крыж сваіх вернікаў. Толькі тады ён зможа належным чынам працаваць з імі. Як гэта рабіў сьвяты Ян Віянэй альбо сьвяты Ян Боска, альбо тыя сьвятыя, па чыіх сьлядах ходзяць нашы клерыкі ў Гародні — сьвяты Максіміліян, сьвяты Казімір, многія сьвятары, якія жылі на гэтай зямлі і нават у самых цяжкіх варунках заставаліся вернымі свайму пакліканьню. І гэта не нейкія там прыгожыя легенды, гэта — гісторыя Касьцёла. І яна таксама вельмі моцна ўплывае на фармаваньне душаў будучых сьвятароў, на дысцыпліну іхняга ўнутранага "я".

Ксёндз не мае права кіравацца ў сваёй працы добрым альбо кепскім настроем, ён павінен заўсёды кіравацца дабром і несьці яго таму чалавеку, якога сустракае на сваім шляху. Незалежна ад таго, да якога веравызнаньня належыць той чалавек. Калі нават той чалавек і не ахрышчаны альбо духоўна занядбаны, альбо і ўвогуле ў часе жыцьцёвых вандровак страціў Бога ў сваім сэрцы — нягледзячы ні на якія жыцьцёвыя няўрадзіцы, мы не можам "будаваць мур" перад ім, але павінны разьбіваць той мур. Не заўсёды, вядома, ксёндз адразу дапаможа такому чалавеку, але ён павінен сказаць яму аб той праў-

дзе, якую ведае сам. І павінен зрабіць гэта так, як патрабуе Евангельле, Езус Хрыстус. Гэта вельмі нялёгкая самадысцыпліна — аваloданьне самім сабой.

Можна задаць пытаньне: "Дзеля чаго ж патрэбныя ўсе гэтыя няпростыя высілкі?" Адказ будзе надзвычай просты: "Дзеля таго, каб сьвятары, якія выйдуць са школы Хрыста, былі перадусім людзьмі Касьцёла". Быць жа чалавекам Касьцёла — значыць, знаходзіцца ў еднасьці са Сьвятым Айцом, са сваім біскупам, гэтак жа, як і жыць у згодзе са сваімі бацькамі. Не ўяўляю сабе, каб па-хрысьціянску выхаваны сын не меў пашаны да сваёй маці, пра што мы, дарэчы, вельмі часта размаўляем з клерыкамі. Усе мы — людзі гэтай супярэчлівай сістэмы, у якой выраслі і якая зрабіла негатыўны адбітак на нашым выхаваньні. Добра ведаю гэта, бо і сам жыў у гэтай сістэме. І хаця выхоўваўся ў каталіцкай сям'і, але таксама маю ў сабе пэўны адбітак ментальнасьці гэтай сістэмы, скажам, жаданьне пэўных выгодаў, уладкаваньня свайго дабрабыту. З усім гэтым трэба змагацца, бо яно не прыносіць карысьці сьвятарству. Сьвятарства — гэта не ўласны дабрабыт. Ксёндз павінен выходзіць да людзей і ў дождж, і ў сьнег — заўсёды, калі пазвоняць да яго на плябанію. Перад кожным чалавекам ён абавязаны шырока расчыніць дзьверы, зычліва прыняць яго, дапамагчы. Бо гэта стукаецца ў дзьверы сам Езус Хрыстус, якому патрэбная дапамога. Гэта ёсьць пэўнае ўменьне кіраваць сваімі ўчынкамі.

Мы хочам навучыць маладых людзей і ініцыятыве душпастырскай дзейнасьці. Ксёндз не можа займацца нейкім бізнесам альбо нейкім турыстычным душпастырствам. Мабыць, гэта калі-небудзь і патрэбна — і турызм, і спорт, — але яно патрэбна толькі тады, калі нясе карысьць Касьцёлу і Божаму люду. Ксёндз жа найперш павінен выпрацоўваць у сабе сьвятасьць: калі ўдзяляе сьвятыя сакрамэнты, абвяшчае слова Божае і г.д.

Дысцыпліна праяўляецца і ў паслушэнстве, бо Касьцёл увогуле абапіраецца на паслушэнства. Заўважым: не на страх, а на паслушэнства, з якога вынікае багабоязь. Яна вучыць нас заўсёды падпарадкоўвацца волі Божай, нягледзячы на тое, што часам нам бывае вельмі няпроста, а то й балюча выканаць яе. Часам гэтая воля ператвараецца для нас у цяжкі крыж. Але мы заўсёды павінны памятаць, што пасьля Вялікай Пятніцы было Уваскрэсеньне. І калі мы будзем гэта памятаць, то нам прасьцей будзе выхаваць у сабе дысцыпліну духа. Гэта складана. Я быў бы няшчыры, калі б сказаў, што ўсё гэта лёгка далося мне самому. Разумею, што няпроста гэта і нашым клерыкам. Мы вельмі разьлічваем на тое, што бацькі, паслаўшы свайго сына ў семінарыю, змогуць зразумець: ён ужо не дзіця свайго дома, бо аддадзены Касьцёлу. Кожная маці, адпраўляючы свайго сына да нас, павінна зрабіць гэта так, як у свой час зрабіла Марыя з Езусам альбо Анна з Самуэлем, ахвяраваўшы сваіх сыноў Пану Богу. Таму і сёньня я прашу ўсіх маці шчыра маліцца за сваіх сыноў, за іх поўнае адданьне Хрысту. Бацькі павінны дапамагаць сваім сынам зразумець іх місію, павінны ствараць атмасьферу праўдзівай любові, згоды, супольнай малітвы.

Перакананы: у дачыненьні да маладога чалавека неабходная не толькі дабрыня, але й патрабавальнасьць. Нашы клерыкі ведаюць, што я патрабавальны, і калі ўзьнікне неабходнасьць справядлівасьці, то я гатовы стаць на яе баку, хоць часам дзеля гэтага даводзіцца гаварыць проста ў вочы балючыя словы. Пройдзе пэўны час — і клерыкі самі зразумеюць неабходнасьць гэтага.

Наша семінарыя належыць католікам усёй Беларусі. Таму я сёньня зьвяртаюся да ўсіх вас, дарагія чытачы газеты "Ave Maria". Хачу шчыра падзякаваць вам за вашыя малітвы, ахвяры, за пацеры старэнькіх бабулек, якія, пачуўшы штосьці пра нашу семінарыю і ведаючы, што тут узрастае будучыня Касьцёла на Беларусі, шчыра моляцца за гэтую будучыню. Ведаю, вельмі часта вы, нашы дарагія, дзеліцеся з намі тым "удовіным грошам", які і для вас не лішні, але вы ахвяруеце ім дзеля таго, каб нашы маладыя хлопцы маглі стаць добрымі, ахвярнымі сьвятарамі.

Быць ахвярным сьвятаром нялёгка. Людзі іншы раз "несправядлівыя" да нас, але і праз гэта трэба прайсьці. Таму я часам кажу нашым навучэнцам, што трэба і грубае слова пачуць, і незаслужаны папрок і асуджэньне твайго чыну ў той час, калі ты ўсім сэрцам імкнешся рабіць дабро. Трэба ўсё гэта ведаць і быць гатовым сустрэць падобнае ў сваёй будучай сьвятарскай службе. Сьвятар не мае права на грубасьць адказаць грубасьцю, на няветлівасьць — няветлівасьцю. І ў гэтых выпадках ксёндз павінен любіць людзей. Навука любові нялёгкая — гэта праўда. Але ж мы не можам узвышацца над самім Хрыстом, які выцерпеў нашмат больш дзеля таго, каб мы былі шчасьлівыя. Маючы такога Настаўніка, наша задача навучыцца з любоўю схіляцца і над грэшным, і над бяздольным, і над п'яным, бо і яны няшчасныя, і над усімі, каму цяжка. Часам я проста кажу клерыкам: "Вы павінны палюбіць калгасны смурод". І гэта ніякае не перабольшаньне. Малады сьвятар прыходзіць у вясковую парафію не да выбраных, не да інтэлігенцыі, але да ўсіх. І кожная бабуля, самая занядбаная, якая адзінока дажывае дзесьці на хутары свой век, мае поўнае права на яго любоў, на ягоны клопат і ўвагу да яе лёсу.

Сьвятар павінен быць сьвятаром не толькі пры алтары, але і на пляжы, і дзесьці на адпачынку, і ў любой працы, у любой хаце. На Беларусі людзі вельмі паважаюць і шануюць ксяндзоў, таму і мы павінны шанаваць сваё сьвятарства. На Беларусі, нягледзячы ні на якія перажытыя цяжкасьці, захавалася аўтэнтычная вера. Асабіста я гэта вельмі добра адчуў, калі толькі прыехаў сюды. Напачатку даводзілася праводзіць у канфесіянале па восем гадзін. Тады нават дзівіла, адкуль толькі сілы браліся для гэтага, а потым зразумеў: мяне сілкуе вера людзей, што стаяць у чарзе да канфесіяналу. А "Крыжовы шлях" альбо "Песьні жальбы"? Тутэйшыя вернікі іх настолькі перажываюць, у такой глыбокай малітве, што ўжо назаўсёды будзеш мець у душы прыязнасьць да тых, хто ўмее так верыць і давяраць сваё жыцьцё Богу. Таму мы нагадваем нашым клерыкам, каб яны, стаўшы сьвятарамі, умелі цаніць і берагчы традыцыі, спадчыну Касьцёла на Беларусі. Бо вядома: не ўсё добра, што сучасна і модна. І тое, што прыгожа, суладна гучыць, напрыклад, у Іспаніі, не будзе прыгожым тут. Таму трэба быць вельмі асьцярожным, каб не парушыць аўтэнтычнасьць, традыцыю. Неабходна памятаць, што гэтая традыцыя ўтрымалася, дзякуючы шматлікім ружанцам у розных куточках Краю. Цяпер адчыняюцца новыя касьцёлы, часта пасьля доўгага перапынку парафіяльнага жыцьця, і, магчыма, не адразу ў іх можа ўзьнікнуць тая непаўторная sakrum, якая вызначае Касьцёл на Беларусі. Тут ужо шмат залежыць ад сьвятара, які павінен знайсьці сьвятасьць, прывіць яе вернікам і не страчваць у будучым. Рацыянальная рэлігійнасьць павінна выхоўвацца на традыцыі, бо розныя "прытопы-прыхлопы" мінаюць хутка, а "Serdeczna Matko" трывае. Як, дарэчы, і "Матачка Божая". Старадаўнія песьні можна перакласьці, неяк дастасаваць да разуменьня сучаснага чалавека, але ні ў якім разе нельга дапусьціць, каб страціўся іхні зьмест, згубілася іхняя моц. Будзем жа памятаць, што рэлігія — гэта пачуцьці, сэрца чалавека. І ад таго, якую атмасьферу мы створым на малітве, залежыць фармаваньне душы чалавека.

# АПЯКУН СЬВЯТАРОЎ

*Ян Марыя Вяннэй (1786-1859)* паходзіў з беднай сялянскай шматдзетнай сям'і, якая жыла ў вёсцы Дардзіла, што паблізу Ліёну. У Францыі тады вялася жорсткая барацьба дзяржавы супраць Касьцёла. З прычыны гэтага Ян прыняў першую сьвятую Камунію ў стадоле, прыстасаванай пад капліцу. Чытаць і пісаць ён навучыўся толькі ў 17 гадоў. У хуткім часе пачуў у душы пакліканьне на службу Божую. З вялікімі цяжкасьцямі, выкліканымі недахопам адукацыі і слабым здароўем, яму ўдалося скончыць духоўную семінарыю і ў 1815г. прыняць сьвятарскія пасьвячэньні. Тры гады быў вікарыем, а потым прызначаны сьвятаром у маленькую вёску Арс-эн-Дэмбэс, цалкам занядбаную ў эканамічным і рэлігійным плане. Але гэтыя цяжкасьці не напалохалі Яна Вяннэя: ён цалкам аддаўся рэалізацыі свайго пакліканьня, не клапоцячыся аб дачасных справах.

Ён вёў надзвычай убогі, аскетычны лад жыцьця і заўсёды, у любую хвіліну быў гатовы прыйсьці з дапамогай да іншых. Пакрысе мясцовы люд пачаў вяртацца да веры. Ксёндз гаварыў свае казаньні простай, даступнай мовай, але была ў ім гэткая моц перакананьня, што ў Арс пачалі наведвацца пілігрымы нават з аддаленых куткоў Францыі. Людзі на працягу доўгіх гадзінаў стаялі ў чарзе, каб паспавядацца ў гэтага ксяндза. Да таго ж, іх прываблівала незвычайная здольнасьць сьвятара чытаць у людскім сумленьні і прадбачыць будучае. Ксёндз Ян Вяннэй штодзённа прымаў па 200-300 чалавек. Жадаючых паспавядацца ў яго было так шмат, што часта ён спавядаў уначы. За год перад ягоным канфесіяналам праходзіла каля 30 тысяч чалавек. Пры такой папулярнасьці ксяндза хутка вакол Арс узьніклі самыя розныя чуткі, да сьвятара паляцелі лісты з пагрозамі і г.д. Два разы пробашч спрабаваў пакінуць сваю парафію і знайсьці спакой дзесьці на самоце, ахвяраваўшы яе Пану Богу. Але надарэмна – ён патрэбны быў у Арс. Зьведаў ксёндз Вяннэй і шалёныя атакі Злога Духа, які не мог дараваць сьвятару гэткага шматлюднага навяртаньня да Бога. Змучаны аскезай і хваробамі, пробашч з Арс памёр 4 жніўня 1859г. Быў кананізаваны ў 1925 годзе Піем XI, а праз тры гады Папа абвясьціў яго апекуном усіх сьвятароў. У календары сьвяты Ян Марыя Вяннэй успамінаецца 4 жніўня.



AveMaria

# Я пакіну свой на беразе човен...



Інтэрв'ю з клерыкам Гродзенскай духоўнай семінарыі Аляксандрам Амяльчэнем

***— Аляксандр, я разумею, што гаварыць пра Божае пакліканьне няпроста – яго не вымераеш нейкімі фізічнымі меркамі. Вы лепш за мяне ведаеце, што голас Бога часам бывае вельмі ціхі, без нотак загаду, які, можа, і прасьцей было б выканаць. Але непаўторнасьць пакліканьня і ёсьць у тым, каб з мноства галасоў пачуць той, адзіны, зьвернуты толькі да цябе. Пачуць і пайсьці за ім, не шукаючы і не чакаючы ніякіх выгодаў, не баючыся спаткаць цяжкасьці, а можа, нават насуперак ім... Зрэшты, скажыце лепш Вы самі, што яно для Вас — пакліканьне?***

— З вельмі складанага пытаньня мы пачынаем нашую размову, бо пакліканьне — гэта надзвычай цікавая, таямнічая і, мабыць, невытлумачальная для мяне зьява. Ведаю толькі, што ў кожнага з нас яно сваё, асабістае. Кожнае мае сваю прыгажосьць, непаўторнасьць, і кожны чалавек па-свойму перажывае і рэалізуе яго. Адно ведаю добра: усялякае пакліканьне (сьвятарскае, законнае альбо сьвецкае) павінна несьці дабро людзям і Пану Богу — своеасаблівую плату за Яго дар. Сьвятарскае ж пакліканьне найбольш адметнае, адрознае ад іншых. Чалавек, які атрымаў покліч ад Бога, ідзе да людзей, служыць ім, але толькі з адным заданьнем — прывесьці гэтых людзей да Бога, дапамагчы ім стаць годнымі Божымі дзецьмі. Атрымліваецца такое вось своеасаблівае кола: Бог — чалавек — яшчэ адзін чалавек — і зноў Бог. Калі мы здольныя ўсталяваць гэткую сувязь, зрабіць яе трывалай, то мы і рэалізуем сваё пакліканьне. А да таго, як прыйсьці ў семінарыю, у кожнага клерыка быў свой шлях. Былі там і сумненьні, і пэўная боязь, цалкам зразумелая і натуральная, былі і надзеі, спадзяваньні. У кагосьці пакліканьне было надзвычай яскравай падзеяй, з тых, якія памятаюцца ўсё жыцьцё, у кагосьці яно адбылося ціха, можа, нават непрыкметна, будзённа.

***— А якім яно было ў Вас?***

— Бадай што, я не змагу распавесьці Вам нічога незвычайнага. Маё пакліканьне было ціхае, павольнае, калі можна так сказаць, але настойлівае. Я выхоўваўся ў рэлігійнай сям'і, а потым... потым было маё міністранства. Яно і зрабіла для мяне вельмі шмат. Нельга быць паблізу алтара і заставацца абыякавым да таго, што на ім адбываецца... Словам, для мяне яно сталася вызначальным. Цяпер то я разумею, што маё пакліканьне фармавалася нават тады, калі я сам і не здагадваўся аб гэтым. Разумею, што ласка Божая трымала мяне пры алтары тады, калі мае равесьнікі беглі на возера альбо на футбольнае поле. Праўда, у той час аб гэтым зусім не думалася. Проста я быў там, куды клікала мяне душа, а яна клікала да Бога. Напэўна ж, Яго клічам. Да таго ж, у маім пакліканьні ўдзельнічалі людзі. Я вельмі ўдзячны за гэта маім бацькам, сябрам (некаторыя з іх вучацца цяпер разам са мной у семінарыі). І, вядома ж, я вельмі ўдзячны ксяндзу Францішку Кіселю, які ў часе майго юнацтва быў у Браславе пробашчам. Цяпер я добра разумею, як ён вёў мяне да семінарыі — моўчкі, не кажучы лішніх слоў, але ўсё ж вёў, накіроўваў, падтрымліваў.

***— Цікава. Ксяндза Францішка я ведаю. Памятаю, неяк у размове ён казаў менавіта аб тым, што ніколі і нікога не агітаваў ісьці ў семінарыю, не падштурхоўваў маладых хлопцаў да гэтага кроку, бо лічыць, што кожны павінен вырашыць гэта сам.***

— Усё правільна. І са мною гэтаксама было. Ён не агітаваў, не падштурхоўваў, нават не памятаю, ці гаварылі мы калі ўвогуле пра семінарыю і пра тое, што я мог бы пайсьці туды вучыцца. Часам нават думалася: ну хоць бы штосьці падобнае сказаў мне...

***— Нават крыўдна было?***

— Ну так. Трохі можа й было. Але затое было і іншае, як я цяпер разумею, больш важнае. Дзякуючы яму, ягонай, так бы мовіць, ненавязьлівай педагогіцы маўчаньня, я палюбіў Касьцёл. Не вонкавую яго прыгажосьць, але тое штосьці нябачнае і няўлоўнае, што трымае цябе ў Касьцёле і прымушае аддаваць яму свой вольны час, ахвяраваць нейкімі прыемнасьцямі, а потым аддаць яму і само жыцьцё. Так вось і адбывалася пазнаваньне майго пакліканьня. Потым яно прадоўжылася ў семінарыі. Што б мы ні вывучалі — філасофію, псіхалогію альбо тэалогію — усё дапамагае пазнаваць нам сваё пакліканьне. І гэта вельмі важна. Бо калі чалавек здолеў пазнаць сваё прызначэньне, можна спадзявацца, што ў будучым ён дапаможа іншым людзям распазнаць іхняе.

***— Скажыце, ці не занадта цяжка тут вучыцца?***

— Вучыцца, вядома, трэба ўсур'ёз. Калі ты ўжо ступіў на гэты шлях, зрабіў свой выбар, то трэба не шкадаваць сілаў, каб дасягнуць сваёй мэты. Усё, што мы тут вывучаем, скіравана на тое, каб чалавек адкрыў сябе прад Богам, навучыўся аддаваць сябе іншым і праз сябе, свае ўчынкі паказваць Пана Бога людзям. Цяпер, напрыклад, мы чытаем кнігу сьвятога Яна Віяннэя, там ёсьць такое месца: прыехаў аднойчы да сьвятога няверуючы чалавек, паразмаўляў з ім, а потым заявіў, што сустрэў тут самога Бога. Мабыць, гэта самае важнае для сьвятара: каб людзі ўбачылі ў ім Пана Бога.

Семінарыя дапамагае рэалізаваць наша пакліканьне найперш праз вучобу, у часе якой мы праходзім важныя этапы, што вельмі моцна ўплываюць на сьвядомасьць. Вось, да прыкладу, першы — інаугурацыя, уступленьне ў семінарскую сям'ю. Вельмі запамінальная падзея. Потым — аблучыны, калі клерык атрымлівае сутану.

***— Дарэчы, ведаю, што Вы не так ужо і даўно атрымалі яе. Распавядзіце, калі ласка, крышку падрабязней аб гэтай падзеі ў Вашым жыцьці.***

— Звычайна клерыкі атрымліваюць сутану на трэцім курсе. Я атрымаў яе ў верасьні мінулага года. Можна, вядома, сказаць, што гэта ўсяго толькі адзін з этапаў нашай вучобы, але гэтая падзея мае глыбокі ўнутраны зьмест. Сутана — не проста вопратка. Сутана — гэта зьнешні знак сьвятара, духоўнай асобы. Вядома ж, галоўнае для сьвятара — стан яго душы, аддадзенай Богу і людзям. Але зьнешні бок — сутана — дапамагае сьвятару заўсёды падтрымліваць свой унутраны стан. Да таго ж, нельга забываць, што сутана ўплывае на тых, хто побач з намі. Калі сьвятар ідзе па вуліцы, адбываецца кантакт са стрэчнымі вачыма. І хто ведае, можа, менавіта ў гэты момант хтосьці, спаткаўшыся позіркам з чалавекам у сутане, задумаецца над сваім жыцьцём, засаромеецца нейкіх сваіх учынкаў, згадае, што даўно не быў у доме Божым? Я ўжо не кажу пра тое, што сутана павялічвае адказнасьць клерыка за



У семінарыі – аблучыны.

сваe ўчынкі і за сваю будучыню.

Ёсьць яшчэ такі этап як лектарат. Надзвычай важны. На першы погляд, нічога незвычайнага ў ім нібыта і няма. Усё вельмі проста: семінарысты выстройваюцца ў катэдральным касьцёле, потым кожны з іх падыходзіць да ксяндза-біскупа, кладзе свае рукі на Сьвятое Пісаньне і... адыходзіць. Што мог бы ўбачыць у гэтым матэрыяліст? Мабыць, нічога асаблівага. А для нас гэта вельмі важны этап. Да яго, як і да аблучынаў, і да іншых важных этапаў у нашым жыцьці, мы рыхтуемся праз пяцідзённыя альбо чатырохдзённыя рэкалекцыі. За гэты час чалавек мае магчымасьць глыбока асэнсаваць свой стан. Калі ты апранаеш сутану, то гэта ўжо не толькі знак адрозьненьня ад сьвецкіх людзей, але сьведчаньне тваёго служэньня, знак таго, што кожны чалавек можа разьлічваць на тваю дапамогу. А калі ты ўжо лектар, то ты не проста чытаеш слова Божае, але сваімі ўчынкамі, паводзінамі сьведчыш аб Ім. Але якія б этапы мы ні перажывалі, увесь час ідзе падрыхтоўка да дыяканскага, а потым і сьвятарскага пасьвячэньня, да тае падзеі, дзеля якой мы прыйшлі сюды вучыцца.

***— Аляксандр, скажыце, калі ласка, у Вас ёсьць у семінарыі сябры? І ці не згубілі Вы сваіх ранейшых сяброў, напрыклад, у Браславе, пайшоўшы сюды вучыцца?***

— Ведаеце, кожны чалавек у сваім жыцьці калісьці губляе сяброў, а калісьці іх знаходзіць. Я не згубіў сваіх ранейшых сяброў з ліку веруючых, яны зразумелі мой крок. Ну а тым, хто не верыць у Бога, вельмі цяжка зразумець мяне. Ідучы ў семінарыю, я прадбачыў, што хтосьці мяне не зразумее. Праз гэта праходзіць амаль кожны клерык, і да гэтага ён павінен быць гатовы. У семінарыі я знайшоў шмат сяброў — шчырых, адданых, гатовых заўсёды прыйсьці на дапамогу. У нас увогуле вельмі добрая сяброўская атмасьфера, якая не заўсёды бывае у іншых навучальных установах. Ключ да распазнаньня гэтага сакрэту ў самой назве семінарыі: там ёсьць слова “духоўная”.

***— Вы любіце сваю семінарыю?***

— Калі б я яе не любіў — не вучыўся б тут. Больш таго, упэўнены, што яе любіць кожны клерык. Вучыцца ў нас, вядома, складана: даволі суровая дысцыпліна, напружаны расклад дня, але ўсё гэта кампенсуецца ўсё тым жа галоўным сэнсам — наша ўстанова духоўная.

***— І на заканчэньне нашай размовы, Аляксандр, я хацела б, каб Вы сказалі колькі слоў тым хлопцам, якія зьбіраюцца ў хуткім будучым пераступіць парог семінарыі.***

— Ведаеце, агітаваць іх ісьці да нас ву-чыцца я не буду.

***— А я і не сумнявалася ў гэтым: ксёндз Францішак Вас жа таксама не агітаваў.***

— Менавіта так. А калі сур’ёзна, то я жадаю маладым хлопцам прыслухацца да голасу Божага, які гучыць у іхняй душы. Вельмі цяжка бывае пачуць гэты голас, яшчэ цяжэй — адказаць на яго згодай. Неяк прачытаў мудрае італьянскае выслоўе: “Падарожнік, які палохаецца любой хмаркі, ніколі не вырушыць у дарогу”. Таму я пажадаў бы хлопцам не палохацца тых хмарак, адказнасьці, невядомасьці. Бо, як сказаў сьвяты Павел: “Калі з намі Бог, то хто ж супраць нас?” Але яшчэ я пажадаў бы ўсім маладым людзям, якія цяпер выбіраюць сваю дарогу ў жыцьці: дзе б вы ні былі, па якім бы шляху ні пайшлі — заўсёды трымайцеся Бога і Яго запаветаў. Галоўнае для кожнага чалавека, незалежна ад роду яго занятказў, — не згубіць сваёй лучнасьці з Панам Богам.

***— Дзякуй Вам за гутарку. Жадаю посьпехаў у вучобе, духоўнага дасканаленьня. Вельмі спадзяюся, што некалі атрымаю ад Вас прыміцыйнае блаславеньне.***

— Дзякуй і Вам на добрым слове, а таксама шчыры дзякуй рэдакцыі часопіса “Ave Maria” за тое, што зацікавілася нашай семінарыяй.




У часе дыяканскіх пасьвячэньняў.





ДВА ДНІ Ў ГРОДЗЕНСКАЙ ДУХОЎНАЙ СЕМІНАРЫІ



**Уладзімір КАСПАРЭВІЧ**,
дыякан Гродзенскай духоўнай семінарыі

# НЕ ШКАДОБА НАМ ПАТРЭБНА, А МАЛІТВА

Да клерыкаў і да іхняй вучобы ў семінарыі людзі ставяцца па-рознаму. Адны — са зьдзіўленьнем, другія — з павагай, многія — з прыхаваным, а то й адкрытым спачуваньнем. І дзіўная рэч: гэтае спачуваньне можна іншы раз пачуць нават з вуснаў вернікаў. Не, яны, вядома, згодныя, што сьвятары вельмі патрэбныя нашай зямлі, але калі справа тычыцца нейкага канкрэтнага чалавека, то часам паўстае пытаньне: "А чаму ты? Ёсьць жа і апроч цябе людзі — дык чаму менавіта ты?" Ну, што тут скажаш... Малады чалавек, які абірае шлях сьвятарства, іншы раз успрымаецца людзьмі як нейкі пакутнік, які шмат у чым вымушаны будзе адмаўляць сабе, а значыць, добраахвотна асудзіць сябе на жыцьцё без радасьці, шчасьця. Людзі часам думаюць, што мы, пайшоўшы ў семінарыю, нібыта ў турму пайшлі. Але ж гэта зусім не так.

У пэўным сэнсе мы сапраўды вонкава адмежаваныя ад сьвету, але ж, разам з тым, мы служым тым людзям, якія жывуць у гэтым сьвеце. Без сьвятарства жыцьцё зрабілася б шэрым, аднастайным, а самае галоўнае, — яно страціла б свой глыбінны сэнс. І таму хтосьці павінен выконваць гэтую функцыю — несьці людзям сьвятло, надзею, радасьць, усё тое, што ідзе з Божага слова.

А шкадаваць нас?.. Хіба варта шкадаваць таго, хто мае нашмат больш рэальных шанцаў быць у еднасьці з Хрыстом? Можа, лепш пашкадаваць таго, хто не мае гэткай магчымасьці, а то й не імкнецца да яе, не сумуе па ёй? У семінарыі кожны дзень спланаваны так, што ў ім ёсьць месца для малітвы, разважаньня. Так альбо інакш, але мы заўсёды маем магчымасьць быць з Хрыстом.

Многія сьвецкія людзі ходзяць у нядзелю у касьцёл. І часам гэта ператвараецца для іх нібыта ў нейкую павіннасьць. Адбудуць яе — і на гэтым духоўнае жыцьцё спыняецца. Да наступнай нядзелі. Чалавек кажа, што ён верыць у Бога, але за цэлы дзень можа не ўзяць у рукі ружанца, не памаліцца, не суаднесьці свае ўчынкі з Божымі запаветамі. І тады неўпрыкмет для чалавека парушаецца ягоны кантакт з

Богам. Так здараецца вельмі часта, калі вера ў Бога ператвараецца ў звычайную абрадавасць. Вось гэтым людзям сапраўды можна паспачуваць.

Альбо яшчэ праблема: многія маладыя людзі не бачаць сэнсу жыцьця, не разумеюць, навошта яны прыйшлі ў гэты сьвет і якое месца павінны заняць у ім, якія справы зрабіць. Чаму так адбываецца? Ды таму, што яны вельмі далёка знаходзяцца ад Бога, не ведаюць, а часта і не імкнуцца Яго пазнаць.

Кожны дзень прыносіць людзям новыя і новыя праблемы. Як справіцца з імі, як вырашыць іх так, каб не прынесьці зла людзям, не ўзбудзіць чыюсьці нянавісьць? Часта чалавек губляецца перад праблемамі, не ведаючы, як можна вырашыць іх, і часта мучае сябе бессэнсоўным пытаньнем: "Чаму выпрабаваньні прыйшлі менавіта да мяне?" Гэты чалавек забывае, альбо і не ведае, што кожны з нас павінен несьці па жыцьці свой крыж. Калі ведаць гэта, памятаць аб гэтым, згадзіцца на гэта, то любыя цяжкасьці не будуць невырашальнымі, на любыя няшчасьці тады можна паглядзець зусім іншымі вачыма — вачыма веры. Навука, малітва, праца патрабуюць немалых намаганьняў. Часта чалавек выбірае лягчэйшы шлях, не зважаючы на тое, што гэты шлях можа быць шатанскім. Калі ж чалавек перастае баяцца крыжа, ён можа аваладаць сапраўдным шчасьцем. Трэба толькі добра ўсьвядоміць, што крыж — гэта шлях да ўваскрасеньня. І калі чалавек жадае ўваскрэснуць са сваіх грахоў, з тае цемры, у якой так учэпіста трымае яго сьвет, то трэба, каб ужо сёньня ён быў гатовы пайсьці за Хрыстом, насьледаваць Яго навуку.

Але каб насьледаваць Хрыста, трэба Яго пазнаць. І клерыкам духоўнай семінарыі лягчэй гэта зрабіць, бо яны ўвесь час знаходзяцца ў Касьцёле, яны ніколі не парываюць з ім сувязі. Іншая справа, што на нас ляжыць абавязак вучыцца так, каб потым дапамагаць людзям знаходзіць дарогу да Хрыста, тую, якая вядзе да найвышэйшай любові.

Часам людзі дзівяцца, як мы, маладыя ды здаровыя, сьвядома адмаўляемся ад асабістага шчасьця, ад магчымай сям'і і выбіраем шлях адзіноты. Але ж ксёндз ніколі не бывае адзінокім. Ягоная адзінота ўяўная, вонкавая. Бо ён, выбраўшы шлях сьвятарства, адначасна выбраў і службу людзям, да якіх пасланы. З гэтага і вынікае ягоная радасьць айцоўства, і яна не такая ўжо і малая, якой можа здацца на першы погляд.

У часе вучобы ў семінарыі клерыкі выпрацоўваюць у сабе спагаду да другога чалавека. Гэта вельмі важна — навучыцца спачуваць другому чалавеку, разумець ягоныя слабасьці, дараваць недахопы. Не хачу сказаць, што ў нас цалкам ідэальная атмасьфера. Здараюцца і спрэчкі, і высьвятленьне адносінаў. Але калі яны і здараюцца, то незацяглыя, без той жорсткасьці і нежаданьня прабачаць, якія так часта можна спаткаць у сьвеце. Мы кожны дзень прымаем у свае сэрцы Пана Езуса, а для гэтага мусім быць паяднаныя з усімі, хто жыве побач. Чалавек не можа прымаць Хрыста і адначасна на кагосьці гневацца. Бо той, хто з некім пасварыўся, адначасна пасварыўся і з Панам Богам. А вось гэта ўжо сапраўды недапушчальна.

Дык ці варта нас шкадаваць? Ці варта спачуваць нашай "загубленай маладосьці", як гэта часам можна пачуць? Хіба можа быць загубленай тая маладосьць, якой спадарожнічае сам Бог? Не, не трэба ёй спачуваць і бедаваць па ёй. А вось памаліцца за нас, за тое, каб нашае сьвятарства было годным, служыла дабру Касьцёла на Беларусі, усім яго вернікам, сапраўды можна і трэба. І кожны з нас будзе вельмі ўдзячны за гэткі клопат аб нас і нашай маладосьці. Бо малітва надае сілу, якой нам, вядома ж, трэба шмат. Малітоўная падтрымка патрэбна і тым сьвятарам, якія ўжо не адзін год служаць пры алтары, і тым, якія толькі атрымалі пасьвячэньні, і тым, якія іх чакаюць, і, вядома ж, клерыкам, якія ідуць да свайго сьвятарства. А хіба тыя, што сёньня задумваюцца над сваім будучым шляхам, над тым, каб упершыню пераступіць парог нашай семінарыі, не патрэбна малітва? Не шкадоба ўсім нам патрэбна, а малітва — шчырая, сапраўдная, тая, якую чуе Пан Бог. Дык жа маліцеся за нас, і Бог вас за гэта ўзнагародзіць!





**ПАЭЗІЯ**

**Вячаслаў ПЯЛІНАК,**
клерык Гродзенскай духоўнай семінарыі

# *Навука*

*Белы аплатак на частin ламала*

*Белы аплатак на часткі ламала*
*Добрая мацеры нашай рука,*
*Нам асьцярожна праз стол падавала,*
*А па шчацэ сплывала сьляза.*

*Дзеці на сьцюжу праз вокны глядзелі,*
*Звалі мароз — каб прыйшоў на парог.*
*Вусны дрыготкія маці шапталі:*
*— Дзеткі, не бойцеся: з нам ёсьць Бог.*

*Ціхенька песьню сама засьпявала —*
*Голас уздрыгнуў і раптам зьнямог,*
*Цяжка ўздыхнула і зноў прашаптала*
*Словы салодкія: "З намі ёсьць Бог".*

*Потым не раз гэты вечар прыпомніў,*
*Любая маці, і песьню тваю,*
*Твар і цяпло тых ласкавых далоняў,*
*Нават маршчынку — выключна маю.*

*Многа пра Бога ты мне не казала —*
*Можа таму, што не ўмела сама.*
*Маці! Хапіла мне тых мудрых словаў:*
*"Ён з намі ёсьць". І... сьвятая сьляза...*

*Збайцу спаткаць дапамог мне нясьмелы*
*Голас пяшчотны і ласкі глыток.*
*Ты мне не ў вочы, ты ў сэрца глядзела*
*І прашаптала, што з намі ёсьць Бог.*

*Езусе Хрыстэ! А мо ў Бэтлееме,*
*Ў стайні сьцюдзёнай Ты чуць тое ж мог?*
*Можа, Марыя Табе прашаптала*
*Голасам стомленым: "З намі ёсьць Бог..."*

*Збайцу у ясьлях, Сьвятое Дзіцяці!*
*Дзякуй за сьціпласьць, з якою прыйшоў,*
*Дзякуй, што там, у маёй роднай хаце*
*Месца сабе нарадзіцца знайшоў.*

*Дзякуй за словы матулі сьвятыя,*
*Нават цяпер я іх чую здалёк.*
*Праўда, ёсьць людзі сягоньня глухія:*
*Чуць не жадаюць, што з намі ёсьць Бог.*

*Мудрасьці той, што тады навучыўся,*
*Як спажывалі на сене куцьцю,*
*Я не забуду, не адракуся —*
*Матчыну песьню сьпяю я ўсю.*

*...Вочы малечаў на маці глядзелі,*
*Так, як яна, засьпяваць я не мог.*
*Ейныя ж словы ў душы палымнелі —*
*З намі заўсёды, заўсёды ёсьць Бог!*



# МАЛІТВЫ ЦУДОЎНЫЯ СЛОВЫ...

### За новыя сьвятарскія і законныя пакліканьні

Пане, які выбраў усіх нас, паклікаў, які нам паверыў і палюбіў нас, скажы хлопцам і дзяўчатам, як добра быць капланам альбо сястрой законнай. Няхай яны не баяцца самоты, ахвяры, бо Ты даеш стакроць больш матак, бацькоў, братоў, сясьцёр, дзяцей, дамоў, а звыш усяго гэтага яшчэ і вечнае жыцьцё. Няхай прыйдуць тыя, якія заменяць старэйшых і спрацаваных, але няхай яны будуць сьвятымі, каб умелі не толькі вырываць, але і садзіць, не толькі разбураць, але і будаваць. Захавай у іх, Пане, дзіцячую радасьць. Дай ім у сэрцы спакой, якога сьвет не можа даць. Прытулі іх, Пане, да сябе, каб адчулі яны, якая вялікая любоў Твайго Сэрца, дзеля якой варта жыць. Няхай яны выканаюць жаданьні Твайго Сэрца. Няхай будуць гонарам і радасьцю Твайго Касьцёла. Амэн.

### За клерыка

Гляджу, Пане, на клерыка, які хоча быць ксяндзом і які асыстуе ксяндзу ў часе Сьвятой Імшы. Столькі жаданьня ў яговых вачах і ціхай просьбы ў яговай душы — складаць Табе чыстую Ахвяру. Палюбі яго, Пане, як Яна, бо ён чысты і сьвяты. Дазволь яму пакласьці сваю галаву каля Твайго Сэрца і няхай ён будзе сьвятаром паводле Сэрца Твайго. Аддай яго ў апеку Маці Божай і няхай ён будзе заўсёды чысты, добры і сьвяты, як першае каханьне. Амэн.

### За прыміцыянта

Дзякую Табе, Пане, за багаслаўленьне сьвятара, які першы раз справаваў Сьвятую Імшу. З вераю я цалаваў яговыя рукі, бо яны намашчаныя і сьвятыя. Ён такі чысты і добры... Няхай жа ён назаўсёды аддасьць Табе сваё сэрца — каб нам прабачаў, свае рукі — каб нам раздаваў Хлеб, свае вусны — каб нас навучаў, усяго сябе — каб нас збаўляў. Маці Найсьвяцейшая, Маці адзінага Сьвятара і Маці сьвятароў, вазьмі яго ў сваю апеку. Няхай ён будзе мудры і сьвяты, а мы будзем яго падтрымліваць, бо з нас ён узяты і да нас пасланы. Амэн.

### За сьвятароў, дыяканаў, законьнікаў

Пане, Ты паклікаў апосталаў і вучняў. Ты чыніш гэта ў кожным пакаленьні, каб не бракавала працаўнікоў у Тваім вінаградніку. Езу Хрыстэ, адзіны і вечны Сьвятар, жніво вельмі вялікае. Узглянь на нашу семінарыю. Што ж бы мы рабілі без сьвятароў? Хто адпусьціў бы нам грахі? Хто даваў бы нам Цела і Кроў Тваю? Пустымі сталі б нашыя сьвятыні. Змоўкла б у іх слава Твая. Хто праводзіў бы нас з гэтай зямлі да неба? Замала мы молімся за іх. Замала абеpагаем іх, каб не закрануў іх грэх. Замала любім іх. Дай, Пане, адчуць бацькам сьвятароў нашую ўдзячнасьць за тое, што яны ахвяравалі Табе і нам сваё дзіця, за тое, што выхавалі нам сьвятароў. Пане, учыні, каб сьвятары, дыяканы і законьнікі былі чыстыя і сьвятыя, каб умелі ўсё ахвяроўваць Табе. Няхай яны маюць вялікі розум і вялікае сэрца, каб маглі ахапіць усё і ўсім несьці дабро, як гэта чыніш Ты, Пане. А калі спрацуюцца, дазволь ім трохі адпачыць. Будзь для іх узнагародай і каронай. Амэн.

### За парафіяльнага ксяндза

Пане Езу, Ты — адзіны і вечны Сьвятар. Ты наказаў сваім Апосталам, каб яны па ўсім сьвеце абвяшчалі Тваё Евангельле, каб удзялялі разграшэньне, каб, складаючы Ахвяру, казалі аб сьмерці Тваёй ажно да таго часу, калі Ты зноў прыйдзеш да нас. Дзякую Табе, Пане, за нашага сьвятара. Ён гаворыць так, як Ты, што мы зьяўляемся для яго маці, бацькам, братамі і сёстрамі. Ведаю, Пане, як любіш Ты сваіх сьвятароў. Няхай ён будзе сьвятаром паводле Твайго сэрца. Няхай будзе мудры і сьвяты. А за тое, што ён абвяшчае нам Тваю навуку, што ў імя Тваё прабачае нам, што раздае нам Тваё Цела, прытулі яго з любоўю, як Яна, да свайго Сэрца. Мы ж у малітве падтрымаем яговыя рукі. Амэн.

Матэрыялы з Гродзенскай семінарыі падрыхтавала **Ірына ЖАРНАСЕК**.





**Разам з Марыськай**



Ірына ЖАРНАСЕК

# СПРЭЧКА АНЁЛАЎ

Казка

V

Сёньня Міхаська паклаў свой дзёньнік знарок на самым відным месцы. Усе кніжкі ды сшыткі са стала прыбраў, а дзёньнік нібыта забыўся. Ды й ці ж лёгка яго схаваць, калі сёньня там зьявілася чырвоная ды пузатая пяцёрка па матэматыцы? Па кантрольнай. Вядомая рэч: у тым дзёньніку хапае ўсяго, нават некалькі дзірак ёсьць на тым месцы, дзе павінны стаяць адзнакі. Ды ўсё гэта было даўно, а таму і ўзгадваць тое нікому асаблівай ахвоты няма. Міхаськаву пяцёрку ўжо бачылі тата, мама і Волька, а дзёньнік усё яшчэ ляжыць на відным месцы, быццам чакае, што нехта яшчэ яго адкрые.

Хіхік, вядома ж, не зарадуецца маёй перамозе, думаў Міхаська, глытаючы вячэру. Дзіўны гэты Хіхік: і чаму ён любіць адны прыдурствы? Можа нават пакрыўдзіцца за пяцёрку? А можа не захоча пасьля яе і ведаць Міхаську? І дзіўная рэч: падумаўшы гэтак, Міхаська не тое, што не заплакаў, але нават і не засумаваў. Можа таму, што ведаў — яговая пяцёрка прынясе сапраўдную радасьць Бліскучаму Анёлу. Зрэшты, ён, напэўна ж, ужо ўсё ведае і толькі чакае моманту, каб павіншаваць Міхаську з перамогай. Выпіў кампот, гукнуў "дзякуй" і панёсься ў свой пакой. Выключыў сьвятло і замёр — ціха... Ціха і цёмна.

— Анёл! — ціхенька паклікаў Міхаська. — Бліскучы Анёл!

Але, нібы ў адказ, адно штосьці ціха азвалася скрыпка з Вольчынага пакоя — сястра вучыла чарговую п'есу. Музыка была нейкая сумная і чамусьці трывожная. Міхаська адкінуў коўдру, стаў на калені ў цемры і папрасіў:

Анёле Божы, дружа мой!
Ты заўсёды пры мне стой,
Рана, ўвечар і ўначы
Будзь ласкаў мне памагчы...

А потым, ужо тулячыся ў падушку, Міхаська прашаптаў:

— Бліскучы Анёл! Не пакідай мяне!

Сказаў і моцна заплюшчыў вочы — з таго кута, дзе вісеў абраз Маці Божай, проста на Міхаську палілася сьвятло, яснае і лагоднае. І адтуль далятаў голас:

— Я не пакідаю цябе! Толькі сёньня мне трохі сумна...

— Табе сумна? — ажно ўскрыкнуў Міхаська. — Табе, Бліскучы Анёл, сумна? Але хіба ты не ведаеш, што сёньня я атрымаў пяцёрку?

— Пяцёрку ты сёньня атрымаў — гэта праўда, — уздыхнуў Бліскучы Анёл, — і я вельмі рады за цябе... Але потым!.. Потым ты абазваў няўмекамі ды нязнайкамі сваіх аднакласьнікаў... А праз гадзіну, калі ты бег са школы, — я ледзьве пасьпеў выратаваць цябе ад колаў машыны!

Міхаська сумеўся. Ну так, усё гэта было, і ён чамусьці зусім гэтага не памятаў: ні таго, як дражніў сваіх аднакласьнікаў, ні таго, як заскрыгаталі за яговай сьпіной колы машыны, як шафёр сварыўся на яго і як ускрыкнула ад страху Людка-выдатніца, якая сёньня, дарэчы, атрымала чацьвёрку па матэматыцы. Міхаську, вядома ж, Людчыны адзнакі не абыходзяць і не перад ёй зухаваў ён, калі рынуўся на чырвонае сьвятло... Вядома ж, не перад ёй. Але тады чаго яго панесла на тое сьвятло?..

Бліскучы Анёл пакружляў па пакоі, потым прысеў на стол, побач з Міхаськавым дзёньнікам, склаў свае бліскучыя крылы і ўздыхнуў:

— Ганарыстасьць і пыха прыносяць столькі бяды! І людзям, і анёлам. Менавіта ганарыстасьць і пыха пасварылі некалі анёлаў, і яны падзяліліся на добрых і злых.

Міхаська ажывіўся:

— Распавядзі мне аб гэтым, Бліскучы Анёл, — ты ж абяцаў.

Бліскучы Анёл усьміхнуўся, і яговая ўсьмешка на гэты раз была сумная-сумная:

Праціг. Пачатак у №№10,11 за 1996г. і №1, 2, 5 за 1997г.

— Што ж... Слухай...

### Аповяд Бліскучага Анёла пра тое, як пасварыліся анёлы

Было гэта даўным-даўно. Яшчэ тады, калі ў раі, у гэтым чароўна прыгожым Эдэмскім садзе, жылі зьвяры і птушкі, рыбы і жамяра, людзі і анёлы. Усе яны жылі ў шчасьці, радасьці і зусім не ведалі, што такое злосьць, беды, войны, хваробы, сьмерць. Усяго гэтага яны не ведалі і нават не маглі сабе ўявіць, што гэта такое. Яны весяліліся, сьпявалі песьні, гулялі. Ніхто з іх не ўмеў нікога крыўдзіць альбо некаму зайздросьціць. Ды і навошта? Калі ўсяго хапала, усе былі шчасьлівыя, бо жылі ў вялікай прыязнасьці і любові з Тым, хто стварыў горы і рэкі, зямлю і нябёсы, птушак і зьвяроў, людзей і анёлаў. А стварыў усё гэта добры Бог. Гэта Ён даў жыцьцё ўсяму, што ёсьць на зямлі, небе, у вадзе... Гэта Ён стварыў і той цудоўны сад Эдэм, які людзі назвалі раем.

Але вось аднойчы... Аднойчы здарылася нешта зусім незразумелае. У той час, калі хор анёлаў сьпяваў прыгожы гімн, у якім славіў свайго Стварыцеля, адзін анёл у блакітным адзеньні раптоўна змоўк. Ён аддаліўся ад сваіх сяброў, прысеў на верхавіну разложыстага дуба і аб нечым моцна задумаўся. Сябры ўбачылі гэта і вельмі зьдзівіліся: ніколі раней не здаралася, каб хтосьці з іх раптам перастаў сьпяваць прыгожы гімн Стварыцелю. Некаторыя з іх не вытрымалі і таксама перасталі сьпяваць; яны акружылі самотнага анёла і наперабой зачалі пытаць:

— Што здарылася?

— Што?

— Што такое здарылася?

Сапраўды, што ж магло здарыцца? Забалець анёлу нічога не магло, бо анёлы ўвогуле не ведаюць, якім бывае боль. Ды і людзі, і зьвяры тады яшчэ не ведалі, што такое хваробы. Сумаваць у раі не было аніякіх прычын, дык што ж тады здарылася? Чаму гэты анёл такі хмуры?

І анёл сказаў сваім сябрам зусім неспадзяванае:

— Мне надакучыла сьпяваць адны і тыя ж гімны.

— Але ж мы сьпяваем кожны дзень розныя песьні і гімны, — зьдзіўлена ўсклікнуў адзін з ягоных сяброў.

— Так, розныя, — адказаў Блакітны Анёл, — але славім мы ў іх толькі Бога. Ён, вядома ж, разумны й магутны, але... але хіба мала на сьвеце разумных, дужых ды магутных? Вось, напрыклад, я... Учора я вырваў з коранем гэты дуб і перанёс яго з таго краю Эдэму сюды. Пасадзіў — і ён зноў расьце! Але вы!.. Ніхто з вас нават і не заўважыў гэтага!

— Увогуле, я заўважыў, што гэтага дрэва раней тут не было... — задумenna прамовіў Зялёны Анёл.

— Вось бачыш! — з дакорам усклікнуў Блакітны Анёл і ад свайго горкага дакору ён ажно пашарэў. — Вось бачыш! І ніхто з вас не засьпяваў мне песьню славы!

— Славы? — зьдзівіўся Ружовы Анёл. — Але ж мы славім толькі...

— Вы славіце толькі Бога і толькі Яго аднаго! — раздражнёна перапыніў яго Шэры Анёл, які яшчэ хвіліну таму быў Блакітным. — Вы зусім не хочаце заўважаць, што на сьвеце ёсьць яшчэ хтосьці і разумны, і сьмелы, і магутны.

— Але ж ты... — нясьмела азваўся нечы голас, — ты таксама...

— Я? — перапытаў Шэры Анёл. — Так, да нядаўняга часу я гэтак жа сьпяваў адны і тыя ж гімны, як і вы. Але цяпер!..

— Сябры! — усклікнуў Ружовы Анёл. — Сябры! Мне здаецца, мы штосьці не тое робім. У той час, калі мы павінны сьпяваць гімн Стварыцелю, мы распачалі нейкія дзіўныя гаворкі.

Шэры Анёл на гэта толькі злосна засьмяяўся:

— Ха-ха-ха! Ты спужаўся! Лепей адразу прызнайся, што ты спужаўся! Гэтая гутарка дзіўная для таго, у каго розуму малавата, а вось для мяне... Калі ў мяне шмат розуму, дык мне тут нічога дзіўнага няма.

Зялёны Анёл, пачуўшы гэткае, ажно заплюшчыў вочы. Яму вельмі хацелася прымірыць сваіх сяброў, і таму ён прапанаваў:

— Сябры! — сказаў ён. — Я прапаную дасьпяваць разам з усімі гімн Стварыцелю, а потым... Потым мы, можа, і табе, — зьвярнуўся ён да Шэрага Анёла, — прасьпяваем гімн.

— Але я не хачу потым! — гукнуў Шэры Анёл і пашарэў яшчэ больш. — Я не хачу потым! Я хачу цяпер! Калі вы прызнаеце, што я магутны, разумны і...

Анёлы маўчалі. Усё гэта было так дзіўна і так нечувана, што яны не ведалі, што ж ім цяпер рабіць. Адны ўжо рыхтаваліся засьпяваць новы гімн і даставалі з-пад сваіх крылаў срэбныя трубы, іншыя ж усё яшчэ непаразумела азіраліся на сваіх сяброў, якія ў бляску сонечных промняў сьпявалі радасны гімн Стварыцелю. Іхнія апраткі ільсьніліся ў промнях сонца і ярка бліщэлі. Яны былі такія прыгожыя. што некалькі анёлаў, з тых, што сядзелі на дубе, узьняліся ўвысь і далучыліся да сьпевакоў. Хор яшчэ больш узмацнеў, і тады Шэры Анёл гукнуў тым, што яшчэ заставаліся з ім:

— Бачу, вы баіцеся адважыцца на сьмелы крок. Палахліўцы! Ха-ха-ха! Добра! Што ж, я адкрыю вам страшэнную таямніцу.

Анёлы тады яшчэ не ведалі, што такое страх, але чамусьці міжволі прыціснулі свае ружовыя, зялёныя, жоўтыя крылы ў прадчуваньні чагосьці вельмі незвычайнага.

— Я даведаўся страшную таямніцу, — абвясьціў Шэры Анёл. — Бог задумаў так, каб з людзей нарадзілася Жанчына, якой Ён даверыць валадарства над намі!





Сказаў і аціх. Усе таксама прыгаломшана маўчалі. Яны проста не ведалі, цешыцца ім з пачутага альбо не. Але абдумаць гэта як сьлед Шэры Анёл ім не даў.

— Вы толькі падумайце: мы — разумныя, моцныя, мудрыя анёлы — будзем падпарадкоўвацца нейкай Жанчыне! — усклікнуў ён.

— Сапраўды, дзіўна, — нясьмела падаў голас Зялёны Анёл.

— Пачакайце! — ажно пачырванеў Ружовы Анёл. — Мы ж яшчэ не ведаем, якая гэта будзе Жанчына. І калі так вырашыў Бог...

Шэры Анёл пацямнеў яшчэ больш. Ён ужо нагадваў нейкую вялізную шэрую птушку. Ён узмахнуў крыламі і галасна гукнуў:

— Я не хачу больш служыць! — Набраў у грудзі паветра і паўтарыў: — Я не хачу больш служыць... Богу!

І зрабіўся адразу чорным. Зусім чорным. Як ноч, калі на небе няма зорак. Анёлы ва ўсе вочы спуджана глядзелі на яго і некаторыя з іх таксама цямнелі. А Чорны Анёл галасна засьмяяўся і закружляў над імі:

— Ха-ха-ха! Я вольны! Я не буду больш служыць Богу! Я сам буду цяпер вырашаць, што мне рабіць, а чаго — не! Я сам! Я вольны! Мне непатрэбны болей Бог! І я ўжо ніколі не пакланюся нейкай там Жанчыне! Ха-ха-ха!

Некалькі анёлаў таксама расправілі крылы, узьвіліся над дубам, закружляўшы разам з Чорным Анёлам, гулкім рэхам паўтараючы: "Ха-ха-ха!" Чорны Анёл на імгненьне спыніў свой палёт і гукнуў гэтым рагатунам:

— Эй вы! Я вам кажу! Вы — са мной?

На момант зрабілася ціха, а потым анёлы загаманілі:

— Так-так! Мы з табой! Ха-ха-ха! Мы з табой!

— Вы будзеце служыць мне і адмаўляецеся служыць Богу?

— Будзем! Будзем! Будзем! Табе! Табе! Табе! — быў адказ.

Магутны дуб, які ўсё гэта чуў, здрыгануўся ўсім сваім дужым ствалом, бо ўсё гэта было такое нечуванае, такое незразумелае і... страшнае, што ягоныя галіны задрыжэлі, а лісьце на іх затрымцела і зьнерухомела. Дрэва аціхла. Прымоўк і вецер у ягоных галінах, быццам задумаўся аб нечым. Залацістыя анёлы, якія толькі што скончылі сьпяваць гімн Стварыцелю, таксама прымоўклі. Яны сполашна глядзелі на сваіх нядаўніх сяброў, а цяпер зусім чорных істотаў, і чакалі, што ж будзе далей. А тыя чорнай хмарай узьвіліся над магутным дрэвам, кружлялі над ім і паўтаралі, паўтаралі сваё: "Не будзем больш служыць Богу! Мы вольныя! Ха-ха-ха!" А Чорны Анёл, які яшчэ нядаўна быў Шэрым, а яшчэ крыху раней Блакітным, лунаў чорнай плямай над імі і гукаў: "Я — ваш валадар!"

І тады над навакольлем прагучаў голас Бога. Ён, вядома ж, бачыў і чуў, якой страшнай няўдзячнасьцю адплаціў Чорны Анёл і ягоныя памагатыя за бясконцую Божую дабрату. У адзін момант Бог мог бы зьнішчыць чорных анёлаў, але не стаў гэтага рабіць, а вось што Ён вырашыў:

— Што ж, — сказаў Бог, і ўсе жывыя істоты прыціхлі, чакаючы Ягонага слова, — калі вам надакучыла быць прыгожымі й добрымі анёламі — будзьце чорнымі й злымі. Дагэтуль вас усе любілі, цяпер усе вас будуць ненавідзець, бо вы прамянялі дабро, якое было вам дадзенае дарма, на зло, якое вы прыдбалі цаной здрады Мне. Але я не дазволю, каб вы жылі і надалей разам са Мною ды мурзацілі ўсё прыгожае сваімі чорнымі плямамі ды нагнялі страх на ўсіх жывых істотаў, якія Я стварыў і якіх Я вельмі люблю. Таму з гэтага моманту вашае месца — пекла. Вы самі яго выбралі — дык і ідзіце туды. І з гэтага моманту кожны, хто не пажадае жыць са Мною ў сяброўстве і любові, пойдзе да вас!

Як толькі Бог вымавіў гэтыя словы, чорныя анёлы адразу ж зрынуліся ўніз, у падземельле, якое называлася пеклам. З гэтага часу яны пачалі служыць свайму Чорнаму Анёлу і лютай нянавісьцю ненавідзець усё сьветлае, добрае і радаснае, усё, што жыве ў згодзе з Божай воляй. Ненавідзець і пры любым зручным выпадку прыносіць гэтаму сьветламу й добраму сваю чорную шкоду. Чаму яны так робяць? Ды таму, што ў пекле ім адным сумна і, мабыць, страшна. Таму і стараюцца яны з усіх сіл як найбольш займець сабе нявольнікаў, якія б таксама адракліся ад Бога і пачалі служыць злому духу — Чорнаму Анёлу.

Але тых, хто хоча да іх патрапіць, вельмі мала. Яно й зразумела: каму ж прыемна страціць вечную радасьць і набыць вечны смутак? І кожны, хто не жадае трапіць да чорных анёлаў, з таго часу пачаў прасіць свайго анёла-ахоўніка:

Анеле Божы, дружа мой!
Ты заўсёды пры мне стой:
Рана, ўвечар і ўначы
Будзь ласкаў мне памагчы.
Верна служыць Богу,
Змагаць духа злога,
Любіць маму, тату,
Край і родну хату...

І калі гэтая просьба шчырая, то анёл-апякун заўсёды прыходзіць на дапамогу і заўсёды гатовы ратаваць чалавека ад нападкаў злых анёлаў. За гэта нас і не любяць усялякія хіхікі, за гэта і злуюцца на нас. Але нашкодзіць нам яны не могуць. Бо мы служым справядліваму і добраму Богу і ўсе свае справы давяраем толькі Яму.

На гэтым Бліскучы Анёл скончыў свой аповяд.

Працяг будзе.

# Урачыстасьць у Пінску



**21** мая, у гадавіну біскупскай сакры, кардынал Казімір Сьвёнтэк, адправіў пантыфікальную Сьвятую Імшу ў Пінскай катэдры Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі. На ўрачыстасьці прысутнічалі нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, 37 сьвятароў, законныя сёстры і вернікі.

Запрашаючы ўсіх прысутных да супольнай малітвы, Яго Эмінэнцыя падзякаваў Пану Богу за апеку над Касьцёлам на Беларусі, за біскупаў і сьвятароў, якія маюць магчымасьць несьці сьвятарскую паслугу.

У гаміліі ксёндз дзекан Брэсцкі Зьбігнеў Кароляк падкрэсьліў, што ўсё сваё жыцьцё кардынал Казімір Сьвёнтэк на заклік Хрыста заўсёды адказваў "так": у часе сьвятарскага пасьвячэньня, потым у камуністычным зьняволеньні ў Брэсьце, яшчэ пазьней – ў ссылцы... І ўрэшце, шэсьць гадоў таму, прымаючы біскупскую сакру... "Мы асабліва ўдзячны Вашай Эмінэнцыі за тое, што стаў для нас не толькі зьверхнікам Касьцёла, але найперш айцом", – сказаў кс.З.Кароляк.

Складаючы шчырыя віншаваньні ад імя Сьвятога Айца і ад сябе асабіста, апостальскі нунцый Дамінік Грушоўскі сказаў: "Бог перамог. Са змагара ўчыніў пастыра, кардынала, слугу Свайго Касьцёла на Беларусі".

У заключным слове Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Сьвёнтэк успомніў сваю сьвятарскую дарогу, выказваючы асаблівую удзячнасьць маці, якая "яму, шасьцігадоваму хлопчыку, складвала рукі і, учыняючы знак крыжа, вучыла малітвам". Кардынал адзначыў, што яго пакліканьне ўзьнікла ў часе шчырай малітвы пры труне біскупа Зыгмунта Лазінскага. Ён падкрэсьліў таксама, што самыя цяжкія часы камуністычнага перасьледу вытрываў менавіта дзякуючы апецы Маці Божай Міласэрнасьці. "Божы Провід учыніў, што ніколі ў мяне не было нават найменьшай кроплі сумніву. Я ведаў, што вытрываю, бо Маці Найсьвяцейшая і біскуп Лазінскі апекаваліся мною", – падкрэсьліў Яго Эмінэнцыя.



*На здымках:*
у часе ўрачыстасьці, прысьвечанай шостай гадавіне біскупскай сакры.

"Ave Maria" чэрвень-ліпень № 6-7 (32-33) 1997
Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана на Мінскай паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная зорка"
(г.Мінск, 1-ы Загарадны зав.,3). Зак. 1878. Наклад 12 000 экз.
Адрас рэдакцыі: 220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, тэл./факс: (0172) 26-90-92
Катэдральны касьцёл Найсьвяцейшай Панны Марыі
Часопіс выдаецца на ахвяраваньні вернікаў







*Фрагменты жыцьця Гродзенскай духоўнай семінарыі.*







